№ 26 (288) 12 ліпеня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

3 ПАДАРЫЛІ ПРЭЦЭДЭНТ
у Расеі прэзыдэнтаў перавыбіраюць да сьмерці

11 АДПАЧЫНАК
як вярнуцца зь яго жывым

14 МОДА НА МАЗГІ
на зьмену Сталонэ і Шварцу прыйшлі Афлек і Дэйман



## Рамонту не падлягае

**7—8 ліпеня ў Купалаўскім тэатры трыюмфальна прайшлі легендарныя "Тутэйшыя".**

Спэктакль, які заўжды зьбіраў аншлягі, рэклямы не патрабаваў, асабліва пасьля зьняцьця з рэпэртуару на падставе "састарэласьці дэкарацыяў". У першыя ж хвіліны гледачы змаглі пераканацца (а мо акторы сьвядома паказалі ім гэта), што дэкарацый тых ніхто не рамантаваў: дзьверы цэнтральнага іх элемэнту — гіганцкай батлейкі — ўпарта не хацелі адчыняцца, стылізаваная праваслаўная царква ў патрэбны момант не ад'ехала на месца — давялося акторам штурхаць яе саматугам, калыска лётала між небам і зямлёй туды-сюды — з такой хуткасьцю яе падымалі ды апускалі. Мо гэта дратавала актораў, мо пагроза спыніць спэктакль пасьля першага ж выкрыку "Жыве Беларусь!", а мо проста рэпэтыцыяў не хапіла, але ў першы дзень ігралі яны крыху напружана, нэрвова, нібы сьпяшаючыся. Хіба што малайчына Манаеў (Мікіта Зносак) ратаваў сытуацыю, выкладаючыся напоўніцу.

Гледачы займаліся кампаратывістыкай — шукалі ў пастаноўцы штосьці новае. Розьніца амаль неадчувальная. Спэктакль крыху амэрыканізаваўся. Паболела фарсу, большы акцэнт рабіўся на акторскія грымасы, імправізаваныя моўныя памылкі. У "саўндтрэк" дадалася стылізаваная "Купалінка". Вось, бадай, і ўсё.

Глядзельная заля за час адсутнасьці "Тутэйшых" на сцэне зьмянілася болей. Людзі апладуюць ужо ня ў тых эпізодах, што раней. Прыкладам, развагі пра бальшавіка — ці ён "таксама чалавек", ці не — раней зрывалі авацыю, а цяпер сустракаюцца поўным маўчаньнем. Дэактуалізаваліся. Паменела імпэту й на незалежніцкіх лёзунгах, якіх безьліч сказана было за апошнія гады. А вось словы Зноска пра тое, што й па-беларуску можна праводзіць вялікадзяржаўную палітыку, заля сустрэла жывей.

І ў нядзелю, і ў панядзелак у фінале гледачы наладжвалі супэравацыю з тысячагалосым "Жыве Беларусь!" — акторам, нябачна прысутнаму аўтару, бел-чырвона-беламу сьцягу над сцэнай, самім сабе. Цешыліся, што могуць вось так сабрацца ў цэнтры Менску, ля самае прэзыдэнцыі, і ўзьняць гіганцкі нацыянальны штандар.

**Сяргей Мікулевіч**




АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Як мы ня сталі грамадзянамі БНР

**1997 год. Над краінай навісла пагроза страты дзяржаўнасьці. Заключаная дамова аб "саюзе" Беларусі і Расеі. Русіфікацыя шалее. Апазыцыя здольная вывесьці на вуліцы дзясяткі тысяч чалавек, але ня ведае, куды іх павесьці. Інтэлігенцыя напружана шукае, як уратаваць дзяржаўнасьць і гонар нацыі.**

**У ліпені 1997 году ў чатырох маладых беларусаў, што жывуць у трох розных краінах, узьнікае ідэя аднаўленьня грамадзянства БНР. Яны зьвяртаюцца да кіраўніцтва Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — сымбалічнага нацыянальнага прадстаўніцтва, што праіснавала на Захадзе ў час савецкае акупацыі Беларусі, — з заявамі пра ўступленьне ў грамадзянства БНР. Пакуль гэта толькі прыгожы жэст, гучны знак для беларускага грамадзтва і эўрапейскае грамадзкасьці, а заўтра, у выпадку далучэньня Беларусі да Расеі, — рэальная стратэгія негвалтоўнага супраціву і юрыдычнае выйсьце для мільёнаў людзей. Праз паўгоду ініцыятыву маладых людзей раптам падхоплівае палітычнае кіраўніцтва Беларускага народнага фронту. З пачатку 1998-га яно разгортвае акцыю "Грамадзянства БНР". Людзі падаюць заявы, атрымліваюць паперы аб прыняцьці гэтых заяваў. Аднак у 1999 г. справа раптоўна сьціхае. Чаму рамантычная ідэя так і не была рэалізавана? Ці застаецца ініцыятыва актуальнай?**



**12—14 ліпеня ў Вільні адбудзецца канфэрэнцыя Эўрапейскага сэктару Рады БНР з удзелам Старшыні Рады Івонкі Сурвілы. Дэлегаты будуць гаварыць пра стан нашай краіны і шукаць шляхі ўплыву на палітычныя працэсы ў Беларусі. Напярэдадні мы зьвярнуліся з пытаньнямі да людзей, якія мелі непасрэднае дачыненьне да падзей 1997—99 г.**

Ідэя аднаўленьня грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі належыць беларускаму навукоўцу **Сяргею Шупу**. Зьявілася яна падчас працы з дакумэнтамі БНР у Дзяржаўным архіве Літвы. Сярод папераў, канфіскаваных у 1920 г. у беларускага дзеяча Янкі Чарапука літоўскімі памежнікамі, былі дзесяць незапоўненых пашпартоў БНР. Шупа ледзьве ўтрымаўся, каб не "рэквізаваць" іх ды не скарыстаць па прызначэньні. Тым больш што ён на той час быў асобай без грамадзянства: беларускія ўлады ў 1992 г. адмовілі яму ў прыняцьці ў грамадзянства РБ.



СЯРГЕЙ ШАПРАН

Сяргей Шупа

Працяг на старонцы 4.

## Анатоль Сідарэвіч: Дэмакратычнай, а не беларускай

**На пачатку лістапада мае адбыцца Зьезд інтэлігенцыі, прымеркаваны да 120-годзьдзя народнага настаўніка Канстанціна Міцкевіча. Думка пра неабходнасьць такога сходу прагучала на паседжаньні Нацыянальнага аргкамітэту па сьвяткаваньні 120-годзьдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. "НН" прапануе гутарку з Анатолем Сідарэвічам, аўтарам гэтае ідэі.**

**Анатоль Сідарэвіч:** Я прапанаваў назву "Зьезд дэмакратычнай інтэлігенцыі". А сябры Беларускага народнага фронту хацелі назваць яго "Зьезд беларускай інтэлігенцыі". Гэта два розныя падыходы. Мне тлумачаць: маўляў, назва "Зьезд дэмакратычнай інтэлігенцыі" азначала б, што ёсьць і недэмакратычная. Дык жа ёсьць недэмакратычная інтэлігенцыя! І высокага кшталту недэмакратычная. Адны імёны Гегеля і Гайдэгера чаго вартыя!

Я ня супраць назвы "Зьезд беларускай інтэлігенцыі". Але баюся, што можа зноў адбыцца сэпарацыя: "сьведамых", беларускамоўных — ад небеларускамоўнай, "нясьведамай" інтэлігенцыі. Зноў гэтыя праявы сэктанцтва!

Працяг на старонцы 10.



пра вакацыі

## Выжыць у часе адпачынку

**Білеты купленыя, пашпарт падрыхтаваны, рэчы складзеныя — плаўкі, сонечныя акуляры, фотаапарат... А дзе аптэчка — кальцый, актываваны вугаль, плястыр? Бярыце абавязкова! Бо ў часе адпачынку ваш арганізм зазнае сур'ёзнае небясьпекі. Ніжэй — чытайце, чаго і як трэба асьцерагацца, каб пазьбегнуць непрыемнасьцяў.**

### Атручанае марозіва

Марозіва — цудоўны летні ласунак. На жаль, ня толькі для нас, але й для бактэрыяў — сальманэлаў ды стафілякокаў. Першыя зазвычай жывуць у брудных яйках, другія — на скуры людзей, што вырабляюць ды прадаюць марозіва. Таму, перш чым купляць ласунак з вулічнае яткі, зірнеце, ці чыстыя рукі ў гандляра.

Працяг на старонцы 12.

## з усёй краіны

### Ворша застался бяз гімну

**Падведзеныя вынікі конкурсу на найлепшую песьню аб Воршы.** Пераможцу пакуль ня вызначылі. Цяжка сказаць, чаму ня стаў афіцыйным гімнам места твор Паўла Саковіча і Эдуарда Зарыцкага. Мо таму, што ў ім ёсьць словазлучэньні, нязвыклыя для вуха вэртыкальшчыкаў: "крывавыя бітвы", у якіх "вораг ня здолеў скарыць жыхароў", "міласьць Боская", "вольная, свабодная дзяржава"?

### Кароль Стах на замчышчы

**Аршанскае замчышча ўпрыгожылі скульптуры, створаныя ўдзельнікамі плэнэру, прысьвечанага 935-годзьдзю гораду.** Разьбяры ўвасобілі ў камені герояў Уладзімера Караткевіча.

### Зьнікла вуліца

**Падрабязны плян Воршы выдала РУП "Белкартаграфія".** Там пазначана амаль усё: ад гарвыканкаму да могілак. Не хапае хіба турмаў, якімі здаўна "слаўная" Ворша. Сёлетні плян адлюстроўвае значныя зьмены, якія адбыліся апошнім часам. Вернуты зь небыцьця назвы вуліц Даманіканская, Уваскрасенская, зьявілася шмат новых: С.Собаля, І.Труцэвіча, М.Багдановіча, Я.Драздовіча... На жаль, не абышлося без памылак і недарэчнасьцяў. Вуліца У.Караткевіча чамусьці засталася вуліцай Касманаўтаў. Яна — рэкардсмэн па перайменаваньнях: за сто гадоў была й Вайнбэргавым завулкам, і вуліцай Ігнатоўскага, і Варашылава, і Бровaрнай, і Касманаўтаў. З 1987 г. носіць імя Караткевіча (у доме №10 пасьля вайны жыла ягоная сям'я).

**Віктар Лютынскі, Ворша**

### Спачатку — войска, дыплём — потым

**У Берасьцейскім ПТВ-65 шмат якім хлопцам-выпускнікам не далі дыплёмаў,** паабяцаўшы зрабіць гэта толькі пасьля таго, як тыя ўладкуюцца на працу ці атрымаюць позву ў войска.

**І.Хведаровіч, Берасьце**

### Novyja padatki

**Deputaty Baranavickaha harsavietu zaćvierdzili špis miascovych padatkaŭ.** Z 1 lipienia dyskateki pavinny pieraličvać u haradzki biudžet 5% ad koštu kvitka, biljardnyja kluby — 10%, salaryji — 8%, salony pryhažości — 5%. Uładalniki aŭtazapravak buduć pieraličać 1% ad prybytku. 10% ad abanenckaj płaty daviadziecca addavać uładalnikam kabelnaha telebačańnia. Z novych padatkaŭ baranavicki biudžet musić papoŭnicca na 30 młn. rubloŭ. A adzin dobry śmieććiavoz kaštuje 40 młn.

### Raźbilisia milicyjanty

**La vioski Dubrava pad Baranavičami 3 lipienia ŭjechała ŭ dreva mašyna z tryma maładymi milicyjantami j kursantam Baranavickaj škoły milicyji.** Dvoje zahinuli na miescy, astatnija znachodziacca ŭ špitali. Pavodle niepaćvierdžanych źviestak, kampanija viartałasia z "Karčmy", što la šašy Bieraście—Maskva.

### Uźniaŭ na rohi

**U vioscy Padhornaja, što la Baranavič, byk zabiŭ 35-hadovaha mužčynu.** Całaviek pryjšoŭ na kałhasnuju fermu dapamahčy svajaku, dzie na jaho j nakinułasia ašalełaja žyviolina. Pakul byka adahnali, niebaraka byŭ užo miortvy.

### Chavali złacynnaść

**Ministerskaja pravierka baranavickaj milicyji vyjavila 223 prychavanyja złačynstvy.** Na adnaho supracoŭnika Baranavickaha HUUS zaviedzienaja kryminalnaja sprava, siamiora atrymali dyscyplinarnaje pakarańnie.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

### Ульляна замест Вольгі

**Віцебскі краязнаўчы клюб "Спадкаемцы" прапануе не ўшаноўваць у якасьці сымбалічнай заснавальніцы гораду жонку кіеўскага князя Ігара Вольгу.** "Вольга з дружынай" была абавязковым элемэнтам усіх гарадзкіх сьвятаў, у яе гонар названыя шматлікія фірмы, цырульні і крамы. "Спадкаемцы" ж лічаць, што больш вартай павагі зьяўляецца Ўльляна — жонка вялікага князя Альгерда і маці Ягайлы, якая пражыла ў Віцебску 31 год, пабудавала тры царквы, жаночы манастыр і Ніжні замак.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

### Білеты са штрафам

**Віцебскія чыгуначнікі прадаюць у дызэлях білеты з "камісійным зборам" у 160 рублёў.** Тэарэтычна гэтая паслуга — для тых, хто не пасьпеў узяць білет у касе, але практычна ёй вымушаная карыстацца палова пасажыраў. 3—4 цягнікі адыходзяць амаль адначасова, а білеты на іх прадаюць усяго 3 касы. І штораз, калі там утвараюцца соценныя чэргі, па вакзальным радыё гучыць аб'ява: "У цягніку можна набыць білет са штрафам..."

**А.Т., Віцебск**

# Ярчэйшыя за зоркі

**З 1 на 2 ліпеня ў Будславе адбыўся вялікі фэст — дзень ушанаваньня абразу Будслаўскае Божае Маці. У Беларусі роўны яму бывае толькі адзін — у Жыровічах.**



IREX-PROMEDIA

*Ксёндз і бабулька: united colors of Belarus*

Кожны год да сьвятыні зьбіраюцца вернікі з усяе краіны і з-за мяжы. Хтосьці едзе цягніком, хтосьці — аўтобусам ці прыватным аўто, а хтосьці, ахвяруючы часам і нагамі, пешкі йдзе да касьцёлу бэрнардзінаў, велічныя барочныя формы якога пануюць над навакольлем.

Я неаднойчы езьдзіў у Будслаў зь Вялейкі. Гэтым разам выбраўся туды бяз збораў, падхоплены ўвечары сябрам, які вырашыў рушыць на фэст таксама выпадкова: трапіла пад руку мінулагодняя значка з выявай Маці Божае Будслаўскай...

Звычайна пустыя дарогі былі забітыя транспартам. Здаўна да Будслаўскай сьвятыні зьбіраюцца ня толькі каталікі, але й праваслаўныя, уніяты. Штогод пілігрымаў большае. У арганізацыю ўкладаюцца добрыя сродкі, у асноўным дзякуючы дапамозе з Польшчы. Прыбіраюцца і прыгажэюць суседнія будынкі дый сам касьцёл — на яго крылах зьявілася асьвятленьне, такое самае, як на Чырвоным касьцёле ў Менску.

...Будслаў сустракае нас вялікім натоўпам, узрушаным і гаманкім, у якім бачыш рознакаляровыя хусткі пілігрымаў, бялюткія — старых кабет, чорныя сутаны ксяндзоў. Асноўныя дзеі разгортваюцца знадворку — ля тае часткі будынку, што была капліцай сьв.Барбары, вядомай сваім дзівосным драўляным алтаром. У прыбудаваным памосьце з дахам зь вечара ідуць урачыстыя набажэнствы.

На ўзмоцнены мікрафонамі голас сьвятара, што прамаўляе зварот да Пана Бога, чуецца адказ тысяч вернікаў: "Ты слухай нас, Пане!" У цемры хістаюцца незьлічоныя агеньчыкі, цёплае мяккае сьвятло якіх выхоплівае рукі, твары... Ноч яшчэ больш сакралізуе момант, даючы магчымасьць аднachасова быць разам з усімі і ў адзіноце — сам-насам з Богам.

Апоўначы грамада рушыць хросным ходам вакол сквэру, што перад касьцёлам. Наперадзе — сьвятары і клерыкі з харугвамі й абразамі Божае Маці — Апякункі Беларусі. Людзі рухаюцца павольна, хаваючы ад ветру сьвечкі, чуваць прыгожы сьвяточны сьпеў.

А на пачатку трэцяе гадзіны ночы ў храме пачынаецца ўніяцкая імша, адметная выдатным сьпевам хору, нязвыклымі для касьцёлу ўсходняй літургіяй і адзеньнем сьвятароў. Бяз звычкі да доўгага стаяньня, добра стомлены выходжу на двор. Моладзь бавіцца вакол намёту з ды-джэямі каталіцкага Адраджэньня. Моцны гук, танцы, распаленыя чырвоныя твары — усё як на звычайнай дыскатэцы, мінус тытунь, мацюкі і гарэлка.

Абыходжу касьцёл і кіруюся да машыны. Цішэе музыка, трошкі віднее небасхіл на ўсходзе. Ахінае стома, але ў думках няма звычайнага тлуму. Людзі, як і я, разыходзяцца, каб, перапачыўшы, вярнуцца ранкам да храму.



IREX-PROMEDIA

У машыне засынаю. А ў галаве мільгаюць успаміны пра цудоўны абраз, пра зоркі і ярчэйшыя за іх зіхоткія крыжы касьцёлу бэрнадзінаў, пра ўніятаў і ціхую плынь Сэрвачы, што цячэ па мясьцінах дзяцінства майго дзеда, і пра тое, што ў Будслаў трэба вяртацца яшчэ і яшчэ.

**Усевалад Кабура, Вялейка**

## паступлeньне ў ВНУ

# Хоць у тры ўнівэрсытэты

**Уступныя іспыты распачалі з 8 ліпеня шэсьць вышэйшых навучальных установаў Беларусі: Акадэмія кіраваньня пры прэзыдэнту, Акадэмія мастацтваў, Акадэмія музыкі, Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Вайсковая акадэмія і Вышэйшая пажарна-тэхнічная вучэльня Міністэрства па надзвычайных сытуацыях.**

Іспыты ва ўсе астатнія ВНУ пройдуць пазьней і ў два этапы: ад 16 да 23 ліпеня і ад 24 да 31 жніўня. Шэсьць менскіх ВНУ атрымалі прывілеі ў параўнаньні зь іншымі, бо цягам апошніх гадоў карыстаюцца найбольшым попытам у абітурыентаў — заяваў туды падаюць найбольш. Гэта зьвязана як з сталічным статусам ВНУ, так і зь іхнай унікальнасьцю: ніводная ня мае аналягаў і ўсе важныя для краіны. Раней падобныя прывілеі былі толькі ў БДУ.

Гэткія зьмены дазволяць абітурыентам паспрабаваць свае сілы ў большай колькасьці ВНУ. Калі ня ўдасца прайсьці адбор у адной, дык яшчэ можна пасьпець падаць дакумэнты ў іншую — праўда, менш прэстыжную. А калі ўлічыць, што дакумэнты можна падаваць адразу ў тры ВНУ (у адну — арыгінал, у другія — натарыяльна завераныя копіі), дык шанцы на паступленьне павялічваюцца ўтрая. Пры гэтым адміністрацыя ВНУ ня мае права патрабаваць "толькі арыгінал".

Магчымасьць паспрабаваць сябе ў некалькіх навучальных установах, на думку міністра адукацыі Пятра Брыгадзіна, дапаможа ўзьняць конкурс у вышэйшую школу. Летась конкурс складаў 3,4 чалавекі на адно студэнцкае месца (агулам 128 тысячаў абітурыентаў), а сёлета Міністэрства адукацыі спадзяецца на конкурс у 4 чалавекі на месца (130 тысячаў абітурыентаў).

Новаўвядзеньні сёлетняй прыёмнай кампаніі выкліканыя ня толькі памкненьнем Міністэрства ўзьняць прэстыж вышэйшай школы. Згодна з новай рэдакцыяй "Закону аб адукацыі" (ад 19 красавіка 2002 г.) упершыню ў краіне створаныя адзіныя правілы прыёму ў дзяржаўныя і прыватныя навучальныя ўстановы. У новым законе няма ніякага адрозьненьня між навучальнымі ўстановамі рознай формы ўласнасьці ні ў прыёме, ні ў функцыянаваньні.

**Аркадзь Шанскі**

# Расея падарыла прэцэдэнт

## *Канстытуцыйны суд Расеі дазволіў адлічваць тэрміны прэзыдэнцтва не ад першага*

**Канстытуцыйны суд Расеі прыняў гістарычнае для Лужкова і Шаймієва рашэньне: адлік палітычнага жыцьця кіраўнікоў расейскіх рэгіёнаў пачынаецца з 1999 г., г.зн. з моманту ўступленьня ў сілу закону “Аб прынцыпах арганізацыі ўлады”. Гэты закон прадугледжвае, што кіраўнікі рэгіёнаў ня могуць абірацца на сваю пасаду больш за два разы запар.**

Усе расейскія губэрнатары, што ўступілі на сваю пасаду пасьля кастрычніка 1999 г., могуць лічыць гэта пачаткам свайго першага тэрміну. Ранейшыя абраньні ня ўлічваюцца. Таму прэзыдэнт Башкартастану Рахімаў, напрыклад, зможа праседзець у сваім крэсьле да 2012 г. Маркуючы па ўсім, захаваюць свае крэслы і такія экспэнтрычныя губэрнатары, як калмыкмільянэр Кірсан Ілюмжынаў і маскоўскі мэр, празваны заходнімі журналістамі “містэрам 10% мне”.

Прычынаю такое дабрадушнасьці Канстытуцыйнага суду стала безальтэрнатыўнасьць, што пануе ў расейскай глыбінцы. Палітычнае жыцьцё і грамадзянская супольнасьць у рэгіёнах разьвітыя слаба. Ні Крэмль, ні правая ці левая апазыцыі ў пераважнай большасьці “губэрняў” ня здолелі за апошнія гады прапанаваць хоць якую роўную замену людзям, што валадараць у сваіх рэгіёнах, часам ужо дзьве пяцігодкі.

Рашэньне расейскага суду можа быць выкарыстанае як прэцэдэнт беларускімі ўладамі. Дазвол Аляксандру Лукашэнку балятавацца на чарговы тэрмін можна атрымаць не на рызыкоўным з-за апатыі выбарцаў рэфэрэндуме, а ў ціхай установе на вуліцы Маркса, якою кіруе Рыгор Васілевіч. Напрыклад, на запыт Цэнтравыбаркаму. Апазыцыі тады давялося б або зноў не прызнаць выбараў законнымі, або сьціснуць зубы.

### камэнтар

**Міхаіл Пастухоў, судзьдзя Канстытуцыйнага суду (1994—1996):** Канстытуцыйны суд Беларусі ня мае права прыняць рашэньне, аналягічнае таму, якое прыняў Канстытуцыйны суд Расеі. У дадзеным выпадку ён ня мае права тлумачыць Канстытуцыю. Толькі асобныя судзьдзі або старшыня суду могуць выказаць свае меркаваньні. А для меркаваньняў галоўнае — жаданьне. Юрысты ж Адміністрацыі прэзыдэнта могуць паднесьці хоць дзесяць варыянтаў. Можна, напрыклад, правесьці рэфэрэндум. Або прыняць канстытуцыйны акт саюзнай дзяржавы і сказаць, што ў нас новая дзяржава.

Я лічу, што тэрмін можа адлічвацца толькі ад 1994 г., калі і была прынятая Канстытуцыя з адпаведнай нормай. У 1996-м у яе былі проста ўнесеныя зьмяненьні, прычым з парушэньнямі заканадаўства.

### навіны гаспадарскія

**БЭНЗЫН ПАДАРАЖЭЎ** за апошні тыдзень на 4—7%. У “Белнафтахіме” гэта тлумачаць ростам сусьветных цэнаў на нафту. А тыя будуць расьці найменей да восені.

**ДАПАМОГА НА ДЗІЦЯ** да 3 гадоў цяпер будзе складаць 48389 рублёў, калі маці працуе, і 26055 — калі не. Пераразьлічваць дапамогу Міністэрства працы зьбіраецца 4 разы на год — у жніўні, лістападзе, лютым і траўні.

**ВЫТВОРЦЫ ШКОЛЬНАГА АДЗЕНЬНЯ** і абутку атрымаюць 4 млрд. рублёў крэдыту ад беларускіх банкаў. Летась гэткіх крэдытаў не давалі зусім.

**ЗАПАЗЫЧАНАСЬЦІ** па заробках павялічыліся за чэрвень у паўтара разу. Прадпрыемствы і арганізацыі не сплацілі яшчэ сваім працаўнікам 42 млн. даляраў — сёмую частку ўсяго месячнага заробкавага фонду краіны. Найбольш вінаватыя калгасы (29 млн.), прамысловыя (9,7 млн.) і жыльлёва-камунальныя (1,7 млн.) прадпрыемствы.

**КАМПЭНСАЦЫІ ЎКЛАДНІКАМ** банку “БелБалтыя” пачынае плаціць “Беларусбанк”. Праўда, пакуль аддаюць ня больш за 500 даляраў укладу.

**ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ** працягнецца да 30 чэрвеня наступнага году. На сёньня грамадзяне Беларусі памянялі на акцыі прадпрыемстваў 60% сваіх чэкаў.

**СТЫПЭНДЫІ** асьпірантам і дактарантам падвысіліся ў 1,3 разу. Даплата членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук таксама пабольшае да 10 базавых велічыняў (было 7), акадэмікам — да 15 БВ (было 10). Кіраўнікі дзяржаўных ВНУ атрымалі права накіроўваць на прэміі выкладчыкам да 20% ад фонду заробкаў.

**НАВАСЁЛКАЎСКУЮ ГЭС** аднавілі на Дзятлаўшчыне. Электрастанцыю зачынілі 30 гадоў таму як нерэнтабэльную. Ейная магутнасьць — 220 кВт.

**ПАДАТАК НА ГАНДАЛЬ** увялі ў Бабруйску. Буйныя гандлёвыя кропкі будуць плаціць у месяц 3 базавыя велічыні, драбнейшыя — 2. Тычыцца новая пастанова і дзяржаўных, і прыватных крамаў. Новы падатак мусіць прыносіць у гарадзкі бюджэт 450 тыс. даляраў штогод.

**10 ГРУЗАВЫХ СУДНАЎ** — 6 рачных і 4 клясы “рака-мора” — хоча пабудаваць Міністэрства транспарту. Хадзіць яны будуць па Дняпры.

**НА КОЖНЫ КАМБАЙН** падчас жніва прыпадзе 155 гектараў збожжа. Тры гады таму гэтая лічба была амаль удвая меншай — 88 гектараў. Сёлета плянуецца сабраць 5,9—6 млн. тонаў збожжавых. Летась ураджай склаў 5,2 млн. тонаў.

**62 ПРАДПРЫЕМСТВЫ** хутка пачнуць прыватызаваць. Сярод іх — гомельскі завод “Карал” (апрацоўка некаштоўных камянёў), люстэркавая фабрыка і “Гомельпласт”.

**АСАЦЫЯЦЫЮ БРОВАРАЎ “БЕЛПІВА”** (складаецца з 15 прадпрыемстваў, самае буйное — “Аліварыя”) мае зьліквідаваць урад. Афіцыйнае тлумачэньне — эканомія сродкаў піўзаводаў на ўтрыманьне асацыяцыі. На саміх броварах кажуць, што гэтак улада расчышчае расейскім вытворцам шлях на беларускі рынак.

**С.І.**

### пацярпелыя за Беларусь

3 ліпеня ў Менску былі затрыманыя актывісты “Маладога фронту” Зьміцер Дашкевіч, Руслан Харкевіч і Алесь Васкалей, якія раздавалі менчукам улёткі з інфармацыяй пра Зьмітра Завадзкага і прэсу, у тым ліку і старыя нумары “НН”. 3 ліпеня быў зьбіты падчас пэрформансу і арыштаваны мастак Алесь Пушкін. 8 ліпеня суд Маскоўскага раёну Менску даў Пушкіну 6 базавых адзінак (60 тыс. рублёў) штрафу. У Барысаве 3 ліпеня былі затрыманыя “зуброўцы” Ігар Закрэўскі і Сяргей Пезкін, якія падчас Дня Рэспублікі хадзілі з плякатамі “Дзень Незалежнасьці — 27 ліпеня!” і “Незалежнасьць — свабода слова і правы чалавека!” 4 ліпеня ў Менску за распаўсюд улётак былі затрыманыя сябры АГП Леанід Малахаў і Аляксандар Зёлка. Намесьніка старшыні БНФ Юр’я Хадыку схапілі 5 ліпеня ва ўласным двары й пасадзілі на 10 начаў у спэцпрыёмнік — за ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці ў Горадні на Дзень Волі. 6 ліпеня ў Вязынцы на афіцыйным сьвяткаваньні 120-годзьдзя з дня нараджэньня Янкі Купалы міліцыя паспрабавала забраць актывістаў БНФ Аляксея Кавальца, Уладзімера Кішкурну й Зьмітра Касьпяровіча, якія ўзьнялі бел-чырвона-белыя сьцягі. Але людзі адбаранілі. 8 ліпеня ў Горадні былі затрыманыя Ірына Данілоўская, Сьвятлана Нех, Зьміцер Іваноўскі, Мікола Воран, Юры Істомін, Віктар Бабкін, Алег Салонікаў, Ігар Корыкаў, Уладзімер Чырвоненка й Віктар Какарэка — удзельнікі “Ланцугу неабыякавых людзей”.

яны пра нас

# У Нарвэгіі такое было пад нацыстамі

**Менск па запрашэньні Беларускага ПЭН-цэнтру наведалі кіраўнік Нарвэскага ПЭН-цэнтру Х’ел Улаф Енсэн і Тэры Карлбём, генэральны сакратар міжнароднага ПЭН-клюбу, другая асоба ў гэтай сусьветнай арганізацыі пісьменьнікаў. Яны адказалі на некалькі пытаньняў карэспандэнта “НН”.**

**“НН”: Як вы ацэньваеце становішча з правамі чалавека ў Беларусі?**

**Х’ел Улаф Енсэн:** У Нарвэгіі СМІ былі проста шакаваныя прысудам журналістам газэты “Пагоня”. Іх асуджэньне супярэчыць усім магчымым канвэнцыям аб правах чалавека.

**Тэры Карлбём:** ПЭН-цэнтар пратэставаў супраць прысудаў Маркевічу і Мажэйку.

**“НН”: У якіх эўрапейскіх краінах так парушаліся ці парушаюцца правы чалавека, як у сёньняшняй Беларусі?**

**Х.Е.:** Згадваецца хіба справа нямецкага журналіста напярэдадні прыходу да ўлады нацыстаў. Ён пазьней атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру. Сумна. Проста шакуе інфармацыя пра тое, што ў Беларусі творы найлепшых пісьменьнікаў выключаюцца з праграмаў школьнага навучаньня. Такога роду цэнзура гісторыі — гэта зьдзек з цывілізаванага грамадзтва. Дарэчы, у Нарвэгіі цяжка сабе ўявіць, каб творы пісьменьнікаў выключалі з праграмаў з палітычных прычынаў. Гэта фантастыка нейкая. У нас такое было толькі ў часе фашыстоўскай акупацыі...

**“НН”: Чаму, па-вашаму, сярод беларускіх пісьменьнікаў дагэтуль няма нобэлеўскага ляўрэата?**

**Т.К.:** У Беларусі ёсьць высокапрафэсійныя літаратары. І новыя будуць зьяўляцца — пры наяўнасьці свабоды слова. Так што, калі хочаце, каб у вашай краіне была Нобэлеўская прэмія, трэба змагацца за свабоду слова.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Х’ел Улаф Енсэн



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Тэры Карлбём

**“НН”: Каго зь беларускіх пісьменьнікаў вы ведаеце?**

**Т.К.:** Сьвятлану Алексіевіч. Яна ня толькі даступна апісала важныя для чалавецтва праблемы, але й паказала бессэнсоўнасьць абмежаваньня свабоды слова.

**“НН”: Ці цяжка будзе Беларусі, у выпадку пазытыўных палітычных пераменаў, зьмяніць свой нэгатыўны імідж на Захадзе?**

**Х.Е.:** Калі ў вас будуць добрыя пісьменьнікі і журналісты — ня цяжка. Акрамя таго, трэба разьвіваць турызм у Беларусі, прываблiваць сюды як найбольш людзей. Але віза ў вашу краіну каштуе 100 даляраў, таму міністру турызму ёсьць пра што патурбавацца. Любы міжнародны абмен садзейнічае разьвіцьцю свабоды слова і адкрытага грамадзтва. Перад Беларусяй цяпер стаіць выбар паміж сучаснасьцю ды разьвіцьцём з аднаго боку і застоем — з другога.

**Гутарыў Алег Тачоны**

### навіны

#### АБСЭ рэзка крытыкуе стан дэмакратыі ў Беларусі

**На паседжаньні Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ бальшынёй галасоў была прынятая рэзалюцыя пра Беларусь, падрыхтаваная прадстаўніком ЗША Стэні Гоерам.** Супраць рэзалюцыі прагаласавалі 11 дэлегатаў (з Расеі, Арменіі, Малдовы, Югаславіі), устрымаліся 44. У дакумэнце згадваюцца парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, продаж зброі ды зьнікненьні людзей. Апроч усяго іншага, рэзалюцыя патрабуе ад беларускіх уладаў выдаць візы супрацоўнікам Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ.

#### Створаныя камітэты грамадзянскага дзеяньня

**У Полацку і Наваполацку створаныя нефармальныя камітэты грамадзянскага дзеяньня, куды ўвайшлі прадстаўнікі апазыцыйных партыяў, грамадзкіх аб’яднаньняў і прафсаюзаў.** Камітэты будуць каардынаваць дзейнасьць арганізацыяў перад выбарамі ў мясцовыя Саветы.

#### Падручнікі падаражэлі

**Урад пастанавіў, што ў новым навучальным годзе плата за карыстаньне школьнымі падручнікамі ўзрасьце ўдвая:** дагэтуль бацькі аплачвалі 25% кошту кнігі, а цяпер будуць — 50%. Ня будуць плаціць за падручнікі дзеці-сіроты, дзеці бацькоў-інвалідаў, а таксама дзеці з малазабясьпечаных сем’яў. Дзеці з шматдзетных сем’яў будуць плаціць 25%. Найдаражэйшы камплект — для 9-е клясы беларускамоўных школаў. Каштуе ён 9 тысяч 876 рублей. Усе беларускамоўныя камплекты даражэйшыя за расейскамоўныя. Быццам бы таму, што расейскія часткова закупляюць у Расеі, дзе падручнікі танныя.

#### На “Сюрпрызе” забіла чалавека

**У менскім парку Горкага на атракцыёне “Сюрпрыз” загінуў работнік парку.** Вэрсія кіраўніцтва парку такая: пасьля закрыцьця атракцыёнаў ён вырашыў пакатацца зь дзьвюма дзяўчатамі. Але не пільнаваўся правілаў карыстаньня: хацеў памяняць кабінкі ў часе руху. Выпаў і забіўся. Цікава, што ягоныя сяброўкі зь месца ўцяклі. Міліцыя разьбіраецца.

**Паводле БелаПАН**

# Як мы ня сталі грамадзянамі БНР

Працяг са старонкі 1.

Гэта й падштурхнула Сяргея Шупу "зрабіцца грамадзянінам БНР, у якасьці эмацыйна-сымбалічнага акту".

Ён меркаваў альбо скарыстаць архіўныя пашпарты, альбо зрабіць зь іх дакладныя копіі. У 1995 г. тэхналягічны аспэкт абмяркоўваўся зь Лёнікам Тарасэвічам, які меў каляровую капіявальную машыну. Запоўнены пашпарт мусіў быць дасланы кіраўніцтву Рады БНР у эміграцыі на зацьверджаньне.

"Гэтая ідэя калыхалася ў нашым вузкім віленскім коле, пакуль у ліпені 1997-га ў Вільні не адбыўся зьезд Эўрапейскага сэктару Рады БНР, — згадвае Сяргей Шупа. — Седзячы на паседжаньні, мы з Дубаўцом склалі тэкст і напісалі па заяве на імя прысутнага Барыса Рагулі — на той час намесьніка старшыні Рады БНР. Запрапанавалі зрабіць тое самае Вінцуку Вячорку, які спачатку недаверліва скасавурыўся, але пасьля кароткага сэансу намаўленьня таксама далучыўся. Побач сядзеў Сяржук Сокалаў-Воюш, якога доўга ўгаворваць не давялося. На стол Рагулю леглі чатыры заявы.

Той ня ведаў, што зь імі рабіць, палічыўшы, што мы просімся ў Раду БНР. А мы ж хацелі стаць простымі шараговымі грамадзянамі.

Так гэта ўсё і завісла, бо ніхто ня ведаў, што рабіць далей. Праз нейкі год ідэя грамадзянства БНР раптам усплыла ў выглядзе акцыі Беларускага народнага фронту з падачы Зянона Пазьняка".

Сяргей Шупа лічыць, што акцыя ператварылася ў палітычную кампанію БНФ і "нічым істотным не скончылася". А пачатковая ідэя была — згуртаваць людзей "на надпартыйнай і надасабовай аснове вакол незалежніцкай ідэі, пазбавіць канкрэтныя партыі і сілы манаполіі на яе". Сяргей Шупа згадвае, што на пачатку акцыі "Грамадзянства БНР" ён і іншыя аўтары тых першых заяваў "распрацавалі дакладней акрэсьліць сваю ідэю, каб дапамагчы скіраваць яе ў больш канструктыўнае рэчышча, — так зьявіўся Мэмарандум, надрукаваны ў той час у "Нашай Ніве". Гэтая спроба працягу ня мела".

## Пазьняка пакрыўдзіла слова "грошы"

На момант пачатку акцыі "Грамадзянства БНР" **Лявон Баршчэўскі** выконваў абавязкі старшыні БНФ "Адраджэньне". Ён быў супраць гэтае акцыі.



Лявон Баршчэўскі

"Я казаў, што пад любы праект патрэбна адпаведная падрыхтоўка. Трэба грошы, рэклямная кампанія, буклеты, масавая раскрутка ідэі ў СМІ, сапраўдныя дакумэнты, а не лісткі паперы. Толькі тады можна было дасягнуць посьпеху. Пазьняк пакрыўдзіўся, калі мы загаварылі пра сродкі. Кажа, што людзі заўсёды працавалі за так... А любая акцыя павінна мець плян правядзеньня плюс фінансаваньне.

Многія кіраўнікі БНФ, за выключэньнем Папкова і Беленькага, скептычна выказаліся наконт акцыі, але справу рабілі. Праўда, папярэджвалі, што яна выльецца ў некалькі дзясяткаў тысяч заяваў. Што й атрымалася".

Лявон Баршчэўскі ўпэўнены, што да ідэі грамадзянства БНР можна вярнуцца.

## Толькі сур'ёзная сіла

**Вячаслаў Сіўчук** падчас кампаніі кіраваў рэгістрацыйнай групай пры БНФ, якая была створана ўправай. Паводле яго слоў, да 1999 г. было сабрана 15 тысяч заяваў: "Падзел БНФ прыпыніў гэтую справу. Я бачыў у акцыі мажлівасьць гуртаваньня сілаў. Мы аналізавалі вынікі па раёнах, разьлічвалі, што грамадзяне БНР стануцца падмуркам нашай дзейнасьці.



Вячаслаў Сіўчук

У 1998—99 г., калі яшчэ быў адзіны БНФ, большасьць менскага кіраўніцтва выступала супраць збору заяваў у грамадзянства БНР. Праект грамадзянства БНР быў якраз справай адзінага Фронту. Пасьля расколу ўжо не хапіла сілаў яго працягваць. Я аддаў усе матэрыялы і ва ўправу адной арганізацыі, і ва ўправу другой. Аднак яны ня здолелі іх выкарыстаць".

Сіўчук таксама верыць, што вяртаньне да ідэі грамадзянства БНР магчымае, але пры ўмове, што "будзе палітычная арганізацыя — ці аб'яднаны БНФ, ці іншая сур'ёзная беларуская палітычная сіла".

## Акцыя доўжылася ўсяго некалькі тыдняў

Мы скантакталіся з Варшавай, каб атрымаць камэнтар **Зянона Пазьняка**. Вось што ён адказаў:

— У пачатку 1998 г. я, як старшыня Фронту, канцэптуальна прапанаваў гэтую ідэю ў якасьці доўгатэрміновай палітычнай акцыі, пакліканай падрыхтаваць легальна праўную дэмакратычную перамену ўлады ў Беларусі з апірышчам на ідэалы БНР.

Пытаньне разглядалася намі адначасна ў Беларусі і ў Нью-Ёрку. Рашэньне Фронту было падтрымана таксама Прэзыдыюмам Рады БНР, на якім я прадстаўляў гэтае пытаньне.

**"НН": Ці своечасова ладзілася акцыя?**

**З.П.:** Яе добра было б пачаць крыху раней, яшчэ ўзімку, калі ўжо зьявіўся мой артыкул "Вяртаньне БНР", дзе гаварылася пра афэру "Хартыі-97" і хуткае выцягваньне ў беларускую палітыку М.Чыгіра (потым грамадзтва ўсё гэта балюча перажыло).

Палітычная акцыя "Грамадзянства БНР" была прапанаваная тады побач з акцыяй "Адстаўка" як галоўнае палітычнае дзеяньне Фронту.

Пасьля лістападаўскага перавароту 1996 г., зьнікшы з парадку дня пытаньня імпічмэнту і зьнікненьня сэнсу "антылукашэнкаўскай апазыцыі", пагрунтаванай на імпічмэнце, я прапанаваў стварыць Беларускі вызвольны рух — шырокую нацыянальна-дэмакратычную апазыцыю супраціўленьня дыктатуры, якая павінна была грунтавацца на беларускай нацыянальнай ідэі і адмаўленьні "інтэграцыі" і "саюзаў" з Расеяй.

Таму акцыя "Грамадзянства БНР" устрывожыла пэўныя колы



ДАВЕДКА

аб прыёме заявы на атрыманьне грамадзянства БНР

Шаноўны(ая) ______

Ваша заява ад "1" красавіка 1998 прынята

за № 000481 сэрыі АА

[illegible] рэгістрацыйнай групы БНФ «Адраджэньне»

[illegible] В.Сіўчук

ў Маскве і Бэрліне. У гэты час у Беларусь прыяжджае Ганс-Георг Вік і (па ўзгодненасьці з Масквой) пачынае ствараць сваю "аб'яднаную апазыцыю" з палітпартыяў, арыентаваную на "дэмакратычную" Расею і пазыцыі заходняга лібэралізму.

З гледзішча гэтай сытуацыі акцыю з грамадзянствам БНР лепей было пачаць у студзені. Але падрыхтоўка гэтай справы (улічваючы і цяжкасьці каардынацыі праз акіян) заняла каля трох месяцаў.

**"НН": Наколькі ўдалай была яе рэалізацыя?**

**З.П.:** Акцыя пачалася няпоўнымі сіламі Фронту (тымі, якія арыентаваліся на нацыянальна-вызвольную апазыцыю) і адразу паказала вялікі нацыянальны патэнцыял у грамадзтве. У час масавых мерапрыемстваў заявы ў Грамадзянства БНР падавалі адразу па дзьве тысячы асобаў у дзень.

Аднак у другой палове 1998 г. Народнага фронту ўжо было не пазнаць. Арганізацыя тады была ўжо расколатая ня толькі ў кіраўніцтве, але, фактычна, і па структурах. Нельга ўжо было масава мабілізаваць увесь Фронт на бескарысьлівую ідэйную Беларускую справу. Больш-менш пасьлядоўна акцыя доўжылася зь перапынкамі ўсяго некалькі тыдняў. Потым — рэдка і спарадычна. Падзеі 1999 г. увогуле адтэрміновалі яе правядзеньне.



Зянон Пазьняк

**"НН": Якія памылкі зрабілі арганізатары акцыі падчас яе правядзеньня?**

**З.П.:** Памылак не было. Існавала сытуацыя неадзінага Фронту, што рабіла арганізацыю практычна недзеяздольнай.

**"НН": Ці можа ў будучыні нацыянальны рух вярнуцца да ідэі гэтай акцыі, ці гэта ўжо немагчыма?**

**З.П.:** Гэта магчыма і можа стаць патрэбным у любы час. Мы не здымаем акцыі "Грамадзянства БНР" з задачаў беларускай нацыянальнай палітыкі і з пляну нашай дзейнасьці. Асабліва цяпер, пасьля зьмены расейскай дыпляматычнай тэрміналёгіі і адкрытай дэманстрацыі анэксіяністкай пазыцыі Расеі ў дачыненьні да Беларусі.

## Вяртаньне немагчымае

На думку **Сяргея Дубаўца**, аднаго з ініцыятараў акцыі, грамадзянства БНР давала магчымасьць аптымістычнай кансалідацыі беларусаў.

"Дзеяньні рэжыму пасялялі ў душах нацыянальна сьведамых людзей апатыю, шмат хто расчараваўся і ў дзейнасьці апазыцыі. Абсалютным аўтарытэтам выглядала толькі Рада БНР — далёкая, але адказная, не задзеяная ў сварках і непартыйная.





АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Прапанаваны мэханізм прыёму ў грамадзянства прадугледжваў самы непасрэдны ўдзел Рады БНР. Яна мелася разглядаць заявы людзей, прымаць рашэньне і фармаваць архіў. Заакіянскае знаходжаньне Рады надавала ўсяму гэтаму працэсу адчуваньне значнасьці і незаангажаванасьці.

Меркавалася, што большасьць беларусаў прызнаюць сябе грамадзянамі БНР, бо ідэі незалежнасьці, дэмакратыі і беларушчыны так ці інакш блізкія ўсім беларусам.

Практычны плён гэтае акцыі бачыўся ў наступным. Скажам, калі б грамадзянін БНР — просьбіт прыходзіў да грамадзяніна БНР — начальніка, яны б не пачуваліся чужымі і лягчэй вырашалі б прыватнае пытаньне з думкаю пра карысьць Беларусі. Альбо калі на бацькоўскім сходзе ў школе бацькам прапанавалі пісаць заявы на беларускае навучаньне дзяцей, бо "клясу пераводзяць на расейскае навучаньне" (паўсюдная сытуацыя тых часоў), дык двух грамадзянаў БНР хапіла б, каб сьведама супрацьстаяць статкаваму інстынкту астатніх. Наагул для паспалітага беларуса набытае грамадзянства БНР мелася прысьпешыць тэрытарыяльную самаідэнтыфікацыю, каб людзі пачалі мысьліць маштабамі сваёй "маленькай" Беларусі, а не тэлевізійнымі абсягамі "ад Буга да Курыл", што дагэтуль у масавай сьведамасьці зьвяляецца галоўнай перашкодай самаідэнтыфікацыі.

Калі б ідэя грамадзянства ажыцьцявілася, мы б мелі заўважнае паляпшэньне грамадзкага клімату ў краіне і адказы на рэфэрэндумах выглядалі б больш лягічна (а ня так, што "не хачу ведаць, куды ідуць грошы зь бюджэту краіны").

Чаму ідэя не ажыцьцявілася? Бо яе асноўныя прынцыпы былі адразу ж парушаныя на практыцы. Рада БНР фактычна дэлегавала свае паўнамоцтвы БНФ, які манапалізаваў ідэю і зрабіў яе партыйнай. Даведкі пачалі выдаваць эмісары партыі. Выглядала, што набыць грамадзянства — нібыта ўступіць у Фронт. З чаго б гэта ўступаць у яго лібэралам, сацыял-дэмакратам ці той творчай інтэлігенцыі, якая ў свой час расчаравалася ў БНФ і яго пакінула? Альбо — паспалітаму беларусу, які цураецца партыйнасьці? Або — вэртыкальшчыку, які па азначэньні не пайшоў бы ў штаб непрымірымага "Адраджэньня"?.. Так ідэя з усенароднай была ператвораная ў аднапартыйную і спрафанаваная. Другім канцом гэтая "палка" ўдарыла па аўтарытэце Рады БНР.



Сяргей Дубавец

Сёньня вяртаньне да страчанае ідэі ў тым выглядзе, як задумлялася, ужо немагчымае. У сьведамых беларусаў не засталося абсалютных рамантычных аўтарытэтаў, дый задачы на парадку дня стаяць іншыя: трэба гуртаваць нацыю вакол той незалежнасьці, якую маем".

**Рэспубліка Беларусь захавала сваю незалежнасьць. А паколькі зьнікла пагроза незалежнасьці, ня стала надзённай патрэбы ў акцыях кшталту "Грамадзянства БНР". Аднак эфэкт тае кароткатэрміновае акцыі паказаў, што Рада БНР павінна адыгрываць у палітычным жыцьці Беларусі большую ролю. Мусіла б, бо магла б гэта рабіць.**

**Падрыхтаваў Алег Тачоны**

# Аляксандар Старыкевіч: Аўтарытэт Рады БНР бясспрэчны

**Аляксандар Старыкевіч — ня толькі вядомы беларускі журналіст, рэдактар тыднёвіка "Беларускі час", але й адзіны сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, які жыве ў Беларусі. Сваім найбольшым дасягненьнем ён лічыць удзел у падрыхтоўцы Ўсебеларускага зьезду 2000 г. — спадар Старыкевіч быў кіраўніком рабочай групы аргкамітэту. Той прадстаўнічы зьезд прыняў Акт незалежнасьці Беларусі. А.Старыкевіч упэўнены, што пры пэўным разьвіцьці падзеяў гэты дакумэнт можа стаць гарантам незалежнасьці Беларусі.**

**12—14 ліпеня ў Вільні адбудзецца канфэрэнцыя Эўрапейскага сэктару Рады БНР з удзелам Старшыні Рады Івонкі Сурвіллы. Дэлегаты будуць гаварыць пра стан нашай краіны і шукаць шляхі ўплыву на палітычныя працэсы ў Беларусі. Гэтаму і прысьвечаная нашая гутарка з Аляксандрам Старыкевічам.**



IREX-PROMEDIA

*Робячы першы крок, трэба ўяўляць, што будзеш рабіць другім.*

**"НН": Як выйшла, што Вы — адзіны зь сяброў Рады, які жыве ў Беларусі?**

**Аляксандар Старыкевіч:** У склад Рады я патрапіў у 1997 г., калі знаходзіўся за межамі краіны. Ну, а калі вярнуўся, захаваў ганаровы для сябе статус.

**"НН": Якія функцыі Вы мусілі там выконваць?**

**А.С.:** Нейкіх канкрэтных функцыяў перад мной ніхто ня ставіў. Але я для сябе іх выразна сфармуляваў: сваёй прафэсійнай і грамадзкай дзейнасьцю максымальна спрыяць дасягненьню тых мэтаў, якія ставіць Рада БНР.

**"НН": У 1998 г. у газэце "Навіны" Вы заклікалі апазыцыйныя сілы падтрымліваць Раду БНР, а не Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Ці не зьмянілася за чатыры гады Вашае стаўленьне да гэтай праблемы?**

**А.С.:** Для мяне ўжо тады было відавочна, што Вярхоўны Савет у тым выглядзе, у якім існаваў, праз досыць непрацяглы час сканае. І я ўпэўнены, што ён не застанецца ў гісторыі на той вышыні, якую займае Рада БНР. Ейны аўтарытэт у нацыянальна арыентаваных колах — бясспрэчны.

Каб ВС больш пасьпяхова дзейнічаў, было б лепш для нас усіх. Але ВС практычна не існуе ні ў якім выглядзе, а Рада ёсьць, яна сьцьвердзіла сябе на працягу дзесяцігодзьдзяў. Іншая справа, што ня варта ўскладаць на яе тыя спадзяваньні, якія яна ня можа апраўдаць. Яна застаецца сымбалем — нацыянальным і маральным, — які вытрымаў выпрабаваньне часам.

**"НН": Пры якіх умовах Рада БНР спыніць сваё існаваньне?**

**А.С.:** Думаю, што найлепш на гэтае пытаньне мог бы адказаць хтосьці з больш аўтарытэтных людзей. Мне хацелася б, каб пры любым разьвіцьці падзеяў у нашай краіне Рада БНР усё ж захоўвалася. І была своеасаблівым гарантам.

**"НН": У 1998 г. праходзіла акцыя "Грамадзянства БНР". Як бы Вы ацанілі яе вынікі?**

**А.С.:** Было б значна больш плёну, калі б палітыкі, якія бралі на сябе працу па арганізацыі запісу ў грамадзянства БНР, ад пачатку ўяўлялі, што яны будуць рабіць другім крокам. Бо ініцыятыву абвесьцілі, пэўнае кола людзей у грамадзянства БНР залічылася, а потым надышло нейкае зацішша... Аднак у любым выпадку, калі тысяча людзей атаясамліваюць сябе з Беларускай Народнай Рэспублікай, ейнымі ідэаламі і зрабілі для сябе такі выбар — гэта станоўчы вынік. Хоць гэты выбар і выглядаў у дадзеных умовах досыць абстрактным.

**"НН": Вы — карэспандэнт расейскай газэты *"Новые Известия"* ў Беларусі...**

**А.С.:** У *"Новых Известиях"* я імкнуся падаваць інфармацыю ў цікавым для расейскага чытача выглядзе. Але сярод яе ёсьць і артыкулы пра Раду БНР, і іншыя сьведчаньні таго, што беларуская культура, беларуская дзяржава — гэта самастойныя рэчы. Быў вельмі прыемны момант. У лютым надрукавалі мой артыкул пра паэта і ўдзельніка пасьляваеннага беларускага патрыятычнага руху Васіля Супруна. Прычым там былі апублікаваныя радкі зь вершаў — ягоных і Ларысы Геніюш — на беларускай мове. Выключны выпадак для грамадзка-палітычнай расейскай газэты, каб яна надрукавала хоць колькі радкоў з твораў замежных паэтаў на іншай мове. Пры канцы мінулага тыдня выйшаў мой матэрыял пра Барыса Рагулю.

**"НН": Як бы Вы ацанілі цікавасьць расейскай прэсы да Беларусі?**

**А.С.:** Цяпер яна крыху вышэйшая, чым звычайна, з нагоды вядомых заяваў Пуціна і зьвязаных з гэтым падзеяў. Аднак наагул Расея спрошчана ўспрымае Беларусь, у найлепшым выпадку як свайго "сатэліта". Ці "90-й губэрняй", якая часова зьяўляецца незалежнай дзяржавай. Таму сталай і сур'ёзнай увагі нашай краіне не надаецца. А калі яна і зьяўляецца, то гэта не выклікае вялікага энтузіязму.

Я ведаю, як пляскалі ў далоні беларускія дэмакраты, нават нацыянальна сьведамыя людзі, з нагоды нядаўняй сутычкі паміж Пуціным і Лукашэнкам. Ня думаю, што ад гэтага напружаньня можна чакаць чаго-небудзь добрага для Беларусі як сувэрэннай краіны. Існуе верагоднасьць такім чынам пазбавіцца Лукашэнкі, але ж расейскія ўлады імкнуцца забясьпечыць тут свае эканамічныя і палітычныя інтарэсы шляхам кантролю над нашай краінай.

**"НН": Ці дапускаеце Вы такую магчымасьць, што Лукашэнка, ва ўмовах канфлікту з Масквой, можа пайсьці на перамовы з апазыцыяй?**

**А.С.:** Не. Лукашэнка ніколі ня будзе шукаць саюзу з апазыцыяй, яму гэта нявыгадна. Ягоная стратэгія — кіраваны канфлікт, у якім ён заўсёды перамога. На жаль, апазыцыя ў яе сёньняшнім стане — найлепшы для яго спарынг-партнэр. Нават калі яна зробіць усё па-лукашэнкаўску, калі такое можна ўявіць, ён на перамовы ня пойдзе. Лукашэнку патрэбны "хлопчык для біцьця".

Я дрэнна ўяўляю сабе, чым апазыцыя магла б у той сытуацыі дапамагчы Лукашэнку, у чым ейная сіла. Таму для мяне адказ на гэтае пытаньне абсалютна адназначны. Гэта некаторыя апазыцыйныя колы чарговы раз спрабуюць шукаць лёгкага хлеба. Не працуючы на сваю палітычную вагу, а праз хаўрус з чалавекам, які неадназначна засьведчыў сваё стаўленьне да ўсяго нацыянальнага. Шмат хто спрабаваў скарыстаць Лукашэнку ў сваіх мэтах, і што з гэтага атрымалася?

**"НН": Што зьменіць бы ў палітычнай сытуацыі рэфэрэндум аб падаўжэньні паўнамоцтваў Лукашэнкі?**

**А.С.:** Верагоднасьць рэфэрэндуму ёсьць, бо Лукашэнка не ўяўляе сябе без улады. Ён ніколі ня будзе разглядаць варыянт сыходу на "палітычную пэнсію", нават на самых годных умовах. Па-першае, ён не павер'ы бы такім умовам. І слушна — зашмат усяго наробленa ім за часы кіраваньня. Па-другое, ягонае жыцьцё без улады практычна страчвае сэнс. Так што ён будзе змагацца да апошняга. Любымі сродкамі, у тым ліку і рэфэрэндумамі. Але ж праз рэфэрэндум ён свайго кіраваньня не падоўжыць і не скароціць. Калі ўзьнікне нейкая палітычная сіла, здольная зь ім канкураваць, то хай сабе будуць тры рэфэрэндумы, гэта яму не дапаможа. А калі не, дык ён сам сабою ня сыдзе ні ў якім разе — ні праз чатыры гады, ні празь дзесяць...

**"НН": Якім чынам можа ўзьнікнуць гэтая палітычная сіла? Можа, пры падтрымцы Расеі?**

**А.С.:** Гэта, на жаль, найбольш верагодны варыянт, бо там існуюць фінансавыя сродкі на такую справу. Дагэтуль усе спробы беларускіх палітыкаў, самага рознага колеру, прапанаваць сябе ў якасьці партнэраў Расеі вялікай цікавасьці ў Маскве не выклікалі. Так што тут таксама шмат пытаньняў. Павінна адбыцца нешта зусім неверагоднае, каб Расея пачала абцяжарваць сябе стварэньнем тут нейкай апазыцыі, бо гэта досыць вялікі кавалак працы. Прасьцей дамаўляцца з Лукашэнкам, пры ўсіх ягоных вядомых якасьцях. Ім ёсьць праз што ціснуць на яго. Таму ня думаю, што тыя заходы Пуціна будуць на карысьць нашай дзяржавы. З Лукашэнкам яны хутчэй за ўсё неяк замірацца, на тых ці іншых умовах. Хоць і будуць трымацца на дыстанцыі. Але нашай краіне гэта будзе каштаваць дорага.

**"НН": А чаму заява Пуціна зьявілася сёлета, а не падчас леташняй прэзыдэнцкай кампаніі?**

**А.С.:** Цяжка сказаць адназначна. Часам гэткія рэчы правакуюцца на асабістым узроўні, не дыктуюцца вялікай палітычнай гульнёй. Ня думаю, што расейцам вельмі спадабалася, калі, знаходзячыся ў Пецярбурзе, Лукашэнка заявіў: "Беларусы — гэта расейцы, толькі са знакам якасьці". Гэтая заява і магла стацца апошняй кропляй. А галоўная прычына палягае ў тым, што, наабяцаўшы перад выбарамі шмат, цяпер Лукашэнка імкнецца і пакінуць сабе прадпрыемствы, якія цікавяць расейскі бізнэс, і захаваць кантроль над усімі галінамі жыцьця.

Прыход жа расейскага капіталу ў Беларусь будзе зьвязаны, так ці інакш, з палітычнымі пераменамі. Ён залежыць ад таго, у які бок гэтыя перамены пойдуць. Калі захоўваецца статус Беларусі як незалежнай дзяржавы, тут зьяўляюцца ўмовы, каб разглядаць гэта і як бізнэс, і як пэўны сродак уплыву.

**"НН": А калі можна чакаць пераменаў?**

**А.С.:** Калі людзі гэтага захочуць. Сёньня я ня бачу ніводнага слою грамадзтва, які б хацеў пераменаў. Наадварот, людзі баяцца іх. На памяці пакаленьняў перамены былі толькі да горшага. Прынамсі, атаясамліваюцца з чымсьці дрэнным у сьвядомасьці большасьці людзей. Пабойваюцца пераменаў нават тыя, хто ў іх мусіць быць найбольш зацікаўлены, — бізнэсоўцы. Яны прыстасаваліся да сёньняшняй сытуацыі...

**"НН": На каго павінны арыентавацца новыя палітычныя сілы, каб дасягнуць посьпеху? На Захад, Усход ці шукаць трэці шлях?**

**А.С.:** На Беларусь. Толькі ўласнай працай мы вырашым свае праблемы. Несур'ёзна думаць, што Масква ці Вашынгтон могуць прывесьці да ўлады нармальных беларускіх палітыкаў. Шанцы быць падтрыманым тым ці іншым бокам у нейкага палітыка зьявяцца толькі тады, калі ён засьведчыць сябе як сур'ёзны палітык тут, у Беларусі.

**Гутарыў Алег Тачоны**

спорт

# Грунвальдзкая перамога БАТЭ

**Футбольны клюб БАТЭ (Барысаў) у Мюнхене перамог клюб бундэсьлігі "Мюнхен-1860" зь лікам 1:0 у першым матчы другога раўнду Кубку Інтэртота. Матч-рэванш адбудзецца 14 ліпеня на гарадзкім стадыёне Барысава (пачатак а 18-й).**

Вырашальны гол забіў на 76-й хвіліне форвард Арцём Канцавы. Гэта ўжо трэцяя запар перамога БАТЭ на эўракубку, прычым у трэці ж раз — "усухую". БАТЭ — першая беларуская каманда, якая перамагла немцаў на іхным полі (менскае "Дынама" на Кубку ЎЭФА ў 1995 г. перамагло нямецкі "Вэрдэр", але на сваім полі).





"Грунвальдэрштадыён" сабраў 25 тыс. гледачоў: немцы прыйшлі падтрымаць "сваіх", і тыя ад пачатку матчу пачалі наступ па ўсім фронце. Форварды "Мюнхену-1860" Агастына і Макс (найлепшы бамбардзір бундэсьлігі летась) папсавалі нашым футбалістам шмат крыві. Першыя паўгадзіны гульні барысаўскі брамнік Жаўноў ня меў спакою. Але вароты ўдалося адстаяць "сухімі".

А потым памыліўся мюнхенскі капітан Курц, і немцам прызначылі пэнальты. Аднак Арцёму Канцавому ("штатнаму пэнальтысту" каманды) не пашчасьціла: нямецкі галкіпэр злавіў мяч. Але з гэтага моманту мюнхенцы сталі гуляць больш абачліва. Ранейшага задзёру ў іх хапіла яшчэ хвілінаў на дзесяць, калі Жаўноў ледзьве "дастаў" мяч, што ляцеў роўненька ў вароты.

У другой палове гульні барысаўчане перахапілі ініцыятыву і пачалі ўсё часьцей атакаваць. Спробы трэнэраў "Мюнхену-1860" пераламаць сытуацыю заменамі гульцоў выявіліся няўдалымі. На 76-й хвіліне футбалісты БАТЭ правялі контратаку, якая й завяршылася ўдарам Арцёма Канцавога з пасу Скрыпчанкі.

Гэты гол маральна зламаў немцаў, і ў БАТЭ нават быў шанец павялічыць разрыў. На жаль, барысаўчанін Шмігера магчымасьці ня выкарыстаў.

Ці здолеюць барысаўчане замацаваць сваю перамогу ў матчы-рэваншы? Нечаканасьці ня выключаныя. Баварская каманда аб'ектыўна не слабейшая за беларускую. Да таго ж, барысаўчанам будзе даваць пра сябе знаць стома пасьля адыгранага ў сераду матчу на першынство Беларусі з камандай "Дняпро-Трансмаш". Але ж у сваёй хаце і дзіркі грэюць.

**Адам Воршыч**

## У Вільні пэнсіянэры ходзяць у кіно за 500 рублёў

**Летам віленскія пэнсіянэры змогуць наведваць кінацэнтар "Akropolio kinas" усяго за 1 літ (каля 500 рублёў).** Гэта падарунак старым ад мясцовага самакіраваньня. Пастанова стала працягам акцыі "Да сустрэчы за кавай". Дзякуючы гэтай акцыі, якая будзе доўжыцца да Калядаў, пэнсіянэры маюць права бясплатна частавацца кавай і гарбатай у барах і рэстарацыях гораду.

**Вітаўт Руднік, "Нёман-інфарм"**

## У Расеі выбухі

**У закрытым горадзе Балтыйску (Калінінградзкая вобласьць) ад выбуху замінаванага плякату загінуў мужчына.** За апошнія тыдні гэта трэці такі выпадак у Расеі.

## "Лукойл" і купля нафтазаводу ў Гданьску

**"Лукойл" ня змог купіць 75% акцыяў нафтаперапрацоўчага заводу ў Гданьску,** бо не паразумеўся з сваім брытанскім партнэрам — канцэрнам *"Rotch Energy"*. Палякі ўжо другі раз спрабуюць прадаць завод. У 1998 г. на яго не знайшлося годнага пакупніка. "Лукойл" заяўляе, што па-ранейшаму мае зацікаўленасьць у прадпрыемстве.

**Б.Т.**

# Памылка на мільярд даляраў

**Адной з найвялікшых амэрыканскіх кампаніяў пагражае банкруцтва. У мінулым месяцы стала вядома, што канцэрн *"WorldCom"*, другі па велічыні апэратар тэлефоннай сувязі ў ЗША, з пачатку 2001 г. улічваў як інвэстыцыі сумы, што выдзяляліся на аплату за карыстаньне сеткамі іншых фірмаў. У выніку сёньня на паперы ён мае 1,5 млрд. прыбытку, а насамрэч — 1,2 млрд. даляраў стратаў.**

Кампанію вінавацяць у фінансавым махлярстве. Справа трапіла ў суд. Гэтае банкруцтва можа стаць найбуйнейшым у гісторыі ЗША. У канцы сакавіка актывы *"WorldCom"* ацэньваліся ў 100 млрд. даляраў. Энэргетычны канцэрн *"Enron"*, які збанкрутаваў летась, меў у два разы меней.

*"WorldCom"* можа хаваць яшчэ каля мільярда даляраў расходаў, ня ўнесеных у бухгальтарскія справаздачы", — мяркуе кангрэсмэн Майкл Оксьлі, старшыня Камісіі фінансавых паслугаў. Ён падазрае, што былы прэзыдэнт канцэрну Бэрнард Эбэрз ведаў пра гэткія "памылкі" ў справаводзтве. Оксьлі мяркуе, што памылка была зробленая спэцыяльна, каб утаіць слабыя посьпехі фірмы ад патэнцыйных інвэстараў з Уол-стрыт.

Генэральны дырэктар кампаніі Джон Сыджмар на тым тыдні афіцыйна выбачыўся за скандал і цяпер клапоціцца аб новых пазыках для канцэрну, каб не дапусьціць банкруцтва і прымусовага продажу асноўных актываў фірмы, у тым ліку найбуйнейшай у сьвеце інтэрнэт-сеткі перасылкі зьвестак.

Рэспубліканцы пабойваюцца, каб цесныя сувязі зь вялікім бізнэсам не перашкодзілі ім на лістападаўскіх выбарах у Палату прадстаўнікоў і ў Сэнат. Дэмакраты крытыкуюць Буша і ягоную партыю за палітыку, якая, паводле іхнага меркаваньня, штурхае канцэрны да пагоні за прыбыткамі, у тым ліку за кошт працаўнікоў і біржавых інвэстараў.



Апошнім часам пад пытаньнем апынулася й бізнэс-рэпутацыя самога Буша: Камісія па каштоўных і біржавых паперах (СЭК) зафіксавала ў сваім унутраным мэмарандуме, апублікаваным, аднак, у СМІ, што 12 год таму Буш, тады дырэктар *"Harken Energy Corp."* у Тэхасе, паведаміў аб продажы акцый сваёй фірмы на суму звыш мільёна даляраў з 34-дзённым спазьненьнем.

Неўзабаве выявілася, што тая кампанія страціла ў бягучым квартале 23 млн. даляраў і акцыі фірмы ўпалі на 20%. Таму СЭК пачала сьледзтва, каб высьветліць, ці не прадаў Буш сваёй долі, грунтуючыся на ўнутранай інфармацыі і прадбачачы страты карпарацыі. Такія дзеяньні (так званыя інсайдэрныя гандлёвыя апэрацыі) караюцца законам.

Белы дом хвалюе і тое, якія палітычныя вынікі пацягне за сабой расьсьледаваньне бухгальтарскіх махінацыяў у энэргетычнай фірме *"Halliburton Co."*, якой у 1995—2000 г. кіраваў цяперашні віцэ-прэзыдэнт Дык Чэйні.



Кожнае новае гучнае банкруцтва ставіць пад удар Белы дом

Джордж Буш у аўторак выступіў на Ўол-стрыт і абвясьціў там пра новыя, стражэйшыя пакараньні для мэнэджэраў, якія ўводзяць інвэстараў у зман. Буш мяркуе, што кіраўнікоў фірмаў, якія сьвядома абвяшчаюць ілжывыя фінансавыя вынікі, трэба караць пазбаўленьнем волі, а ня штрафамі, як цяпер. "Амэрыцы трэба вярнуць давер да яе бізнэсмэнаў, — сказаў Буш. — Эканамічныя старонкі газэт ня павінны быць запоўненыя аднымі апісаньнямі скандалаў. Пара вярнуцца да асноватворных прынцыпаў, дзякуючы якім капіталізм адбыўся, — маральнасьці і строгага выкананьня законаў. Капіталізм немагчымы без сумленьня. Сёньня эканоміка ЗША патрабуе захаваньня самых высокіх этычных стандартаў, прадугледжаных законам і дэманстраваных лідэрамі бізнэсу. Высокія амбіцыі зразумелыя, але хцівасьці месца быць не павінна".

Мільёны дробных інвэстараў чакалі гэтага выступу, верачы, што толькі ўмяшаньне дзяржавы спыніць лавіну фінансавых скандалаў, якія скаланаюць біржы. Леташні скандал вакол банкруцтва *"Enron"* выявіўся пачаткам чорнай паласы, а Міністэрства юстыцыі расьсьледуе некалькі дзясяткаў злоўжываньняў ці проста фінансавых махлярстваў. Многія мяркуюць, што гэта толькі вяршок айсбэргу: і ў 90-я многія фірмы ўтойвалі страты і завышалі прыбыткі.

Прэзыдэнт прызнаў, што недастаткова адных заклікаў паводзіцца маральна. Шмат год Буш супраціўляўся дзяржаўнаму ўмяшаньню на фінансавых рынках. Цяпер ён кажа: "Урад мусіць стварыць сыстэму пакараньня тых, хто злоўжывае даверам інвэстараў".

Што ж прапануецца? Перш за ўсё, істотна павялічыць паўнамоцтвы Камісіі па каштоўных паперах. У Міністэрстве юстыцыі будзе створаны спэцыяльны аддзел, задачай якога стане барацьба зь фінансавымі злоўжываньнямі. "Фінансавы спэцназ", як назваў яго Буш.

Пракуроры, супольна з Камісіяй па каштоўных паперах, змогуць патрабаваць для мэнэджэраў-махляроў да дзесяці год зьняволеньня. Камісія атрымала магчымасьць замарожваць разнастайныя прэміі ды ўзнагароды прэзыдэнтам фірмаў, што падазраюцца ў ашуканстве. Яна зможа таксама забараняць асуджаным за фінансавыя злачынствы ўваходзіць у склад наглядальных рад біржавых фірмаў.

Усё гэта мусіць суцішыць гнеў амэрыканцаў, разьюшаных памерамі ўзнагародаў і прэміяў, якія атрымлівалі кіраўнікі *"Enron"* ды *"WorldCom"*. Так, галоўны бухгальтар апошняй перад звальненьнем атрымаў 10 млн. даляраў прэміі, а ўсе газэты апублікавалі здымкі гіганцкага маёнтку, які ён будуе ў Фларыдзе.

У панядзелак той былы галоўны бухгальтар разам з былым прэзыдэнтам *"WorldCom"* бралі ўдзел у слуханьнях у Кангрэсе толькі для таго, каб, спаслаўшыся на Канстытуцыю, адмовіцца даваць тлумачэньні. Раззлаваныя кангрэсмэны загадалі юрыстам высьветліць, ці можна абвінаваціць былога прэзыдэнта канцэрну ў непавазе да Кангрэсу. Адмовіўшыся ад паказаньняў, ён не забыўся паўтарыць, што абсалютна невінаваты і нічога ня ўтойвае...

Сярод законапраектаў, якія Белы дом перадаў у Кангрэс, прысутнічае праект рэформы бухгальтарскай сыстэмы і аналізу фінансавых рынкаў. Ужо з 8 ліпеня пачало дзейнічаць распараджэньне Камісіі па каштоўных паперах, якое забараняе адной і той самай фірме адначасова праводзіць аналіз фінансавых рынкаў і распрацоўваць рэкамэндацыі для інвэстараў.

Гэтак дзейнічала, сярод іншага, дарадчая фірма Артура Андэрсэна — давала рэкамэндацыі і фірмам, што шукалі інвэстыцый, і інвэстарам. *"WorldCom"* запрашаў на пасяджэньне наглядальнай рады вядомага аналітыка тэлекамунікацыйнага рынку. Той кансультаваў фірму, а таксама меўся даводзіць інвэстарам выгаднасьць пакупкі акцый *"WorldCom"*.

З наступнага кварталу прэзыдэнты біржавых фірмаў будуць падпісваць фінансавыя справаздачы не ад імя праўленьня, а ад свайго ўласнага. Тады інвэстарам будзе прасьцей выбіваць з прэзыдэнтаў ашуканскіх фірмаў кампэнсацыю ў судзе.

Большасьць назіральнікаў лічаць, што заклікі Буша аб маральнасьці дапамогуць яму мінімізаваць непрыемныя палітычныя вынікі апошніх скандалаў. Але шмат хто падкрэсьлівае, што Бушаў кансэрватызм і ягоная цесная сувязь зь бізнэсам не дазволяць яму зрабіць усё тое, што неабходна для дасягненьня поўнага посьпеху ў гэтай справе.

Так, "Буш не наважыўся закрануць адну з найважнейшых праблем — гіганцкіх прэмій, якія выплачваюцца мэнэджэрам не наяўнымі, а акцыямі", — сказаў Лу Добз, вядомы эканамічны камэнтатар кампаніі *CNN*.

**Павал Бурдыка**

# Праект захопу неабмежаванай улады

Працяг. Пачатак у № 22, 24, 25.

“Калі ласка, не абвінавачвайце мяне і беларускі народ ва ўтрыманстве й існаваньні за ваш кошт. Вы пытаеце, у колькі абыдзецца гэтае аб’яднаньне? Колькі Расеі давядзецца заплаціць за саюз? Яна заробіць на ім тры мільярды даляраў у год. Вось колькі гэты саюз будзе каштаваць Расеі”, — казаў Лукашэнка. Зрабілася ясна, што ягоны “савецкі кансэрватызм” быў дзейсным інструмэнтам для дасягненьня палітычных мэтаў ня толькі ў межах Беларусі. Бо, толькі апэлюючы да СССР, можна было абгрунтаваць тэарэтычную роўнасьць Расеі й Беларусі як сузаснавальніц аб’яднанай дзяржавы і апраўдаць шырокі ўдзел беларускага прэзыдэнта ў расейскай палітыцы. Цяжка сказаць, чаму Лукашэнка зьмяніў ідэалягічны лейтматыў сваёй дзейнасьці — адмовіўся ад канцэпцыі Вялікай Расеі на карысьць сумесі беларускага нацыяналізму з “савецкім кансэрватызмам”. Але ў выніку Лукашэнкаў варыянт саюзу быў прыцягальны толькі для антыельцынскай апазыцыі, што павялічвала жаданьне прыхільнікаў “цара Барыса” пусьціць інтэграцыйны цягнік пад адхон. Праціўнікі інтэграцыі пераважалі ў той час як ва ўрадзе Расеі, так і сярод тых, хто вызначаў інфармацыйную палітыку СМІ. Пралукашэнкаўскі лягер меў немалую вагу ў выбарных органах улады, але іх рэальны ўплыў у посткамуністычнай Расеі быў непараўнальны з магутнасьцю альянсу ўрадоўцаў і алігархаў, які склаўся вакол Ельцына.

**Рэйтынгі ўплыву асноўных прыхільнікаў і праціўнікаў саюзу зь Беларусяй ў расейскіх уладных колах (ацэнены экспэртамі "НГ" па 10-бальнай сыстэме)**

| Прыхільнікі | | | Праціўнікі | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Публічныя палітыкі | Апаратныя палітыкі | Грамадзкія дзеячы | Публічныя палітыкі | Апаратныя палітыкі | Грамадзкія дзеячы |
| Ю.Лужкоў – 6,7 | В.Чарнамырдзін – 7,8 | А.Салжаніцын – 5,4 | Р.Яўлінскі – 7,6 | А.Чубайс – 8,2 | Я.Гайдар – 7,4 |
| Г.Зюганаў – 6,5 | Я.Прымакоў – 5,9 | А.Лебедзь – 5,1 | Г.Старавойтава – 4,7 | В.Юмашаў – 7,1 | А.Чаркізаў – 5,5 |
| Г.Селязьнёў – 6,4 | В.Сяроў – 4,6 | М.Шакум – 4,5 | К.Баравой – 4,6 | А.Кох – 6,8 | С.Дарэнка – 5,3 |
| Г.Ціханаў – 4,8 | І.Рыбкін – 4,2 | А.Вольскі – 4,0 | А.Козыраў – 4,4 | Я.Урынсон – 6,5 | В.Навадворская – 3,9 |
| С.Бабурын – 4,7 | С.Шахрай – 4,1 | Н.Ганчар – 3,9 | С.Юшанкоў – 3,8 | С.Ястржэмбскі – 6,25 | Д.Ліхачоў – 3,6 |

*Крыніца: Нацыянальная служба навін Расеі, http://www.nns.ru/analytdoc/rbprot2.html.*

Як відаць з табліцы, у лік прыхільнікаў інтэграцыі ўваходзілі больш уплывовыя “публічныя палітыкі”, тады як сярод праціўнікаў дамінавалі тыя, хто меў права прымаць рашэньні ў ельцынскай адміністрацыі.

Аднак выглядала малаімаверным, што расейцы будуць вечна навязваць Беларусі “ўсходнегерманскі” варыянт узьяднаньня. Супраць простага паглынаньня Беларусі Расеяй разам з Лукашэнкам выступіла ня толькі бальшыня намэнклятуры, для якой ліквідацыя сувэрэнітэту краіны азначала паніжэньне статусу да ўзроўню расейскай правінцыйнай бюракратыі, але і, несьпадзявана для расейцаў, пераважная частка беларускага грамадзтва. Зусім ужо нечаканым для іх было тое, што, нягледзячы на дамінаваньне тэмы інтэграцыі ў беларускай палітыцы падчас Лукашэнкавага кіраваньня і нават да яго, папулярнасьць гэтае ідэі сярод беларусаў перажыла адчувальны спад. Што праўда, ён ня быў незваротны й ня выклікаў усплёску беларускага нацыяналізму. Наагул, прыхільнікі саюзу паміж дзьвюма краінамі былі заўсёды, але ў верасьні 1998 г. ненадоўга ўзялі верх адэпты поўнай самастойнасьці. Пры гэтым іх колькасьць была амаль утрая большай, чымся ў часы Кебіча і Шушкевіча, а лік тых, хто быў гатовы падтрымаць аб’яднаньне, якое б цалкам ліквідавала беларускую дзяржаўнасьць, рэзка ўпаў.

Гэтыя зьмены грамадзкай думкі сьведчылі аб пашырэньні пранезалежніцкіх настрояў і аб тым, што здабыцьцё Беларусяй незалежнасьці не прайшло марна для вялікай часткі беларускага грамадзтва. Асабліва калі ўлічыць, што незалежнасьць актыўна падтрымала маладое постсавецкае пакаленьне. Нежаданьне яднацца з Расеяй узрастала штораз, калі становішча там пагаршаў эканамічны або ваенны крызыс. Упершыню гэта здарылася пасьля першай чачэнскай вайны, другой нагодай стаўся жнівеньскі фінансавы крызыс 1998 г., трэцяй — узнаўленьне вайны на Каўказе ў жніўні 1999-га. Затое папулярнасьць ідэі аб’яднаньня вырастала падчас натаўскай кампаніі ў Косаве (паспрыяла афіцыйная антызаходняя прапаганда) і пасьля перамогі Пуціна на прэзыдэнцкіх выбарах, якую шмат хто і ў адной, і ў другой дзяржаве зьвязаў з пачаткам ажыўленьня расейскай эканомікі. Гэтыя пэратурбацыі паставілі Лукашэнку перад нялёгкім выбарам. Расейскія крызысы давалі яму магчымасьць прадэманстраваць грамадзтву перавагі сваёй унутранай палітыкі, процістаўляючы “беларускі парадак” “расейскаму хаосу”, але залішняя крытыка ўсходняга суседа аслабіла б энтузіязм вакол ягонага інтэграцыйнага праекту. Зь іншага боку, падтрымка ідэі саюзу ўзмацнілася б са зьяўленьнем новага лідэра, што ўспрымаўся як альтэрнатыва ня толькі Ельцыну, але і самому Лукашэнку.

Масы па-ранейшаму падтрымлівалі ідэю “саюзу дзьвюх незалежных дзяржаваў”, якая легітымізавала адначасовае Лукашэнкава імкненьне і да “поўнага аб’яднаньня”, і да “поўнай незалежнасьці”. Супярэчнасьць між гэтымі жаданьнямі можа быць патлумачаная дзьвюма прычынамі. З аднаго боку, хацелася “злавіць халяву”: шмат хто ў Беларусі разглядаў саюз як магчымасьць падвысіць жыцьцёвы ўзровень за кошт ільготных цэнаў на расейскую нафту ды газ, ня плацячы за гэта адпраўкай навабранцаў у Чачэнію. Зь іншага боку, вялікая частка грамадзтва бачыла ў інтэграцыі рух да



IREX-PROMEDIA

аднаўленьня колішняга СССР, няхай і ва ўцятым выглядзе. Рэстаўрацыя элемэнтаў савецкай гісторыі й эканомікі дапамагала Лукашэнку падтрымліваць перакананасьць, што сувэрэнітэт і саюз — цалкам сумяшчальныя рэчы.

Беларускае і расейскае грамадзтвы па-рознаму ўспрымалі інтэграцыю. Для прасавецка настроенай беларускай публікі яна была працэсам аднаўленьня краіны, якая грунтавалася на еднасьці й роўнасьці народаў ды, як сьцьвярджалася, дала пачатак дзяржаўнасьці й самастойнасьці Беларусі. У адрозьненьне ад усходняй суседкі, дзе СССР трактаваўся як чарговы этап існаваньня тысячагадовай Вялікай Расеі, беларускае бачаньне савецкай мінуўшчыны было прасякнута мітамі пра роўнасьць і братэрства. Пэрспэктыва аднаўленьня Расейскай імпэрыі не была папулярная ў беларускім грамадзтве: на парлямэнцкіх выбарах 1995 г. прарасейскія нацыяналістычныя сілы пацярпелі поўнае фіяска. Для беларусаў магла быць прыцягальнай толькі савецкая мадэль аб’яднаньня, якая цягнула за сабой аднаўленьне савецкіх парадкаў. Нягледзячы на “рашучую падтрымку” інтэграцыі, менш за 1% беларусаў бачылі сучасную Расею ўзорам, вартым пераймаўня.

У Расеі ж інтэграцыя разглядалася як першы крок да аднаўленьня імпэрскай велічы, дасягнутай Пятром I і ўмацаванай Кацярынай II, а ня Леніным, які быў толькі адным з эпізадычных актораў на гістарычнай сцэне. Нават КПРФ, каб павялічыць свой палітычны капітал, прасіла “блаславеньня” ў Расейскай праваслаўнай царквы і выкарыстоўвала вобразы цара ды палкаводцаў імпэрскай эпохі для палітычнай мабілізацыі “патрыятычна” настроеных расейцаў.

Інтэграцыя зь Беларусяй дапамагала расейскім элітам аднавіць веру ў сябе, пераадолець комплекс непаўнавартасьці, выкліканы стратай статусу супэрдзяржавы. Расейскія нацыяналісты і “эўразійцы” ўспрымалі яе як першы этап адбудовы “расейскага сьвету”, трактаванага імі як натуральная жыцьцёвая прастора расейскай нацыі. Вайскоўцам аб’яднаньне дазваляла адсунуць заходнія межы дзяржавы яшчэ на 600 км ад Смаленску. Такія канцэпцыі і мэты не пакідалі месца Беларусі як самастойнай дзяржаве, і ніводная зь іх не магла быць прынятая беларускім грамадзтвам, ня кажучы ўжо пра яго палітычную эліту і Лукашэнку.

Цікава, што лукашэнкаўская палітыка русіфікацыі не спыніла пашырэньня ідэі незалежнасьці ў беларускім грамадзтве. Наадварот, яна спарадзіла фэномэн “беларускага расейскамоўнага нацыяналізму”, які пашырыўся ў апошняе дзесяцігодзьдзе й пацьвердзіў, паводле Яна Запрудніка, “павелічэньне розьніцы паміж моўнай ды палітычнай русіфікацыяй. Расейская мова ў Беларусі ў шматлікіх выпадках стала такой жа мовай культурнага адраджэньня краіны ды ўмацаваньня яе незалежнасьці, як і беларуская. Можна нават правесьці, хоць і грубае, параўнаньне з ангельскай мовай у Ірляндыі”.

“Беларускі расейскамоўны нацыяналізм” паглыбіў палітычны раскол у незалежніцкім лягеры: адбыўся падзел на прыхільнікаў “этнічнага” й “грамадзянскага” нацыяналізму. “Этнічны” нацыяналізм апэлюе да этнічнай моўнай ды культурнай традыцыі й культывуе міт пра адвечнасьць нацыі. “Грамадзянскі” нацыяналізм адштурхоўваецца ад лібэральнага бачаньня нацыі як прадукту “грамадзкай дамовы”. Нацыя і яе атрыбуты ў першым выпадку — вартасьць мэтафізычная, у другім — выключна інструмэнтальная, сродак дасягненьня іншых, у тым ліку палітычных мэтаў: дэмакратызацыі, дэсаветызацыі, вэстэрнізацыі й г.д. Прыхільнікі “этнічнага” нацыяналізму лічаць нацыянальнае адраджэньне зарукай пабудовы дэмакратыі ў незалежнай дзяржаве, адэпты ж “грамадзянскага” нацыяналізму, наадварот, мяркуюць, што дэмакратыя — рухавік у справе пабудовы нацыі.

У Беларусі “этнічны” ды “грамадзянскі” нацыяналізм мае сваіх палітычных носьбітаў у дэмакратычным лягеры (БНФ з аднаго боку і АГП зь іншага, хоць ідэалягічныя бар’еры між гэтымі партыямі апошнім часам зрабіліся менш адчувальнымі) і свой базавы электарат (з аднаго боку — нацыянальная інтэлігенцыя ды моладзь, зь іншага — касмапалітычнае гарадзкое насельніцтва, частка эканамічнай эліты ды дзяржапарату). Асноўная розьніца між “этнічнымі” ды “грамадзянскімі” нацыяналістамі — у стаўленьні да нацыянальнай мовы. Калі першыя лічаць, што акурат мова ператварае насельніцтва ў нацыю, дык з пункту гледжаньня другіх асобна ўзятая беларуская нацыя можа быць і расейскамоўнай, і дзьвюхмоўнай.

Гэтыя супярэчлівыя падыходы спарадзілі доўгатэрміновы падзел у дэмакратычнай апазыцыі на “нацыянальны” і “лібэральны” блёкі, які выклікаў падзеньне іх сукупнага ўплыву на беларускае грамадзтва. Не ў апошнюю чаргу з-за гэтага падзелу нацыянальна-дэмакратычны лягер дагэтуль не стварыў жыцьцяздольнай альтэрнатывы лукашэнкаўскаму “савецкаму кансэрватызму”. Саветызаваная частка беларускага грамадзтва таксама ўсё больш рабілася адной з палітычных меншасьцяў. Таму Лукашэнка й пачаў фармаваць у грамадзтве “кааліцыю мяншыняў”, імкнучыся легітымізаваць сваю ўладу. Ён фармуляваў сваю палітычную праграму так, каб яна знаходзіла водгук у розных сацыяльных групаў, часам зь несумяшчальнымі інтарэсамі ды прэфэрэнцыямі. Тактыка звычайная для бальшыні аўтарытарных рэжымаў, што ня могуць сфармаваць уласную ідэалёгію й замяняюць яе “клопатам пра кожнага чалавека”. Адсюль усе Лукашэнкавы апартуністычныя зыгзагі — ад грэбаваньня беларускай мовай да ўслаўленьня беларускай незалежнасьці, ад дэманізацыі *NATO* да “пагрозы” тэрміновa нармалізаваць стасункі з Захадам, ад “Славянскіх базараў” да параўнаньня самога сябе з “таварышам Сапегам”. Адсюль і Лукашэнкаў “*doublespeak*” — тэрміны накшталт “рынкавага сацыялізму”, “праваслаўнага атэізму” ды, нарэшце, “поўная інтэграцыя з поўным сувэрэнітэтам”. Падваеньне Лукашэнкавай рыторыкі сьведчыць перадусім пра “падваеньне сьвядомасьці” беларускага грамадзтва ці, хутчэй, пра яго падзеленасьць на некалькі палітычных мяншыняў. Істотна, што “савецкая” меншыня знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне, між “нацыянальна-дэмакратычнай” ды “прарасейскай” і складае трэцюю частку грамадзтва. Яе прыхільнасьць і да інтэграцыі, і да сувэрэнітэту дае пажыву для Лукашэнкавых апартуністычных выкрутасаў — ад прызнаньня Расеі другой бацькаўшчынай беларускага народу да адстойваньня сьвятога права беларусаў на незалежнасьць і сувэрэнітэт. І штораз адну з гэтых узаеманесумяшчальных пазыцыяў падтрымлівае большасьць грамадзтва.

**Працяг будзе.**

**Гэты артыкул — урывак з дасьледаваньня "Палітычная эканомія беларуска-расійскай інтэграцыі", цалкам надрукаванага ў кнізе "Беларуска-расійская інтэграцыя", што нядаўна выйшла з друку ў выдавецтве часопісу "Arche". Друкуецца ў газэтным варыянце.**

# Анатоль Сідарэвіч: Дэмакратычнай, а не беларускай

Працяг са старонкі 1.

Я вельмі баюся іх, бо ўжо на гэтыя граблі наступілі ў канцы 80-х — пачатку 90-х. Болей нельга на іх наступаць.

Вельмі важна, каб у гэтым зьезьдзе ўзяла ўдзел навукова-тэхнічная інтэлігенцыя, інжынэрна-тэхнічныя работнікі, мэдыкі, пэдагогі... А ўжо як там зьезд назавецца: "беларускай інтэлігенцыі" ці "дэмакратычнай" — ня так і важна.

**"НН": А пра што пойдзе гаворка на сходзе?**

**А.С.:** Пра стан інтэлектуальнай культуры, пэрспэктывы гэтае культуры. У нас адбываецца культурны генацыд нацыі. Возьмем сярэднюю школу. Бадай, ва ўсіх эўрапейскіх краінах дзеці вучацца ці будуць вучыцца 12—13 гадоў. Пасьля васьмі клясаў ідуць у ліцэй, гімназію, дзе ўжо арыентуюцца на пэўную прафэсію... Але ў нашай дзяржавы вобмаль грошай, яна ня можа перайсьці на такую сыстэму навучаньня. Яна ня можа аздаравіць дзяцей (а хворых дзяцей штогод больш і больш). Яна ня можа накарміць дзяцей: даць ім калярыйнае харчаваньне, багатае на вітаміны. Дзяржава ня можа даць дзецям магчымасьць адпачываць за горадам улетку. Яна адпрэчыла значную частку дабрадзеяў з-за мяжы.

Дзяржава вырашыла зрабіць прасьцей: палепшыць стан здароўя дзяцей, зьнізіўшы інтэлектуальную нагрузку. Праграмы скараціліся літаральна па ўсіх прадметах. Суботу зрабілі выходным днём. Адбываецца не "амэрыканізацыя", а дэбілізацыя. Якасьць навучаньня падае. Улада гэта і сама прызнала, калі сёлета зноў прыдумала дадатковыя льготы для абітурыентаў зь вясковых школаў, што паступаюць у ВНУ. Замест таго каб паляпшаць становішча настаўніка, заахвоціць маладых настаўнікаў з сучаснымі ведамі працаваць у вёсцы, вучням, пра якіх загадзя вядома, што ў іх слабая падрыхтоўка, даюць дадатковыя балы. Гэта ж ня выйсьце!.. Калі пачынаеш гутарыць з студэнтам, адразу разумееш — зь вёскі ён ці з гораду.

Зрэшты, і ў горадзе ня мёд: адукацыя дзяцей рабочых таксама выклікае трывогу. У нас у Менску ёсьць Заводзкі, Партызанскі раёны, дзе жыве пралетарыят. І якасьць навучаньня ў тамтэйшых школах вельмі нізкая.

Прайдзецеся па ВНУ і зрабеце апытаньне. Зь вёскі туды трапляюць дзеці настаўнікаў, лекараў, рахункаводаў, бухгальтараў, а ня тых, хто працуе зь віламі. І з гораду — ня тых, хто працуе ля станка. Вельмі малы працэнт дзяцей рабочых і сялянаў. Адбываецца элітарызацыя вышэйшае адукацыі, у нас зьяўляецца вялікі пласт людзей, што ня маюць пэрспэктывы сацыяльнага росту. Гэтая тэндэнцыя зьявілася гадоў дзесяць таму і асабліва яскрава стала назірацца падчас Лукашэнкавага панаваньня. Я кажу пра стан школы, бо гэта мне найбліжэйшае...

Трэба ўзьняць і пытаньне пра інтэлектуальную ўласнасьць. У нас уласьнік, ці той, хто вырабіў нейкі інтэлектуальны прадукт, у прававых адносінах неабаронены чалавек.

**"НН": Але ж Дудараву ўдалося сваім часам адстаяць правы на назву "Белыя Росы"...**

**А.С.:** Дык што, кожны раз у судзе вырашаць такія справы?.. Урэшце, на зьезьдзе трэ будзе задаць пытаньне: "Майстры культуры, з кім вы?". Цяпер культураю кіруюць "падонкі" — тыя, хто быў на дне камуністычнае сыстэмы. Усе гэтыя Касьцяны ніколі б ня выплылі наверх пры старых парадках. Гэта нават паказальна, што былых цэкоўскіх апаратчыкаў — Сяргея Законьнікава, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука, Валянціна Блакіта — адхіляюць ад пасад і ставяць на іх месцы людзей, якія пры КПСС—КПБ ніколі б не зрабілі кар'еры і ніколі б не сядзелі ў доме на вуліцы Маркса, 38. Неадукаваныя людзі, якія ня ведаюць спэцыфікі літаратурнае журналістыкі, не прачыталі неабходнага мінімуму тэкстаў... Няхай гэты рэжым пакірue яшчэ дзесятак гадоў — і мы зробімся абсалютнай інтэлектуальнай правінцыяй Эўропы.

## Ніжэйшая школа

**"НН": Ці не пярэчыць гэтае**



**цьверджаньне Вашым жа словам пра элітарызацыю навучаньня?**

**А.С.:** Але ж якасьць вышэйшай адукацыі зьніжаецца! Паглядзеце, хто працуе ў ВНУ, — пераважна людзі майго веку. Маладыя — гэта збольшага жанчыны, якія маюць забясьпечаных мужоў. А здаровыя маладыя мужчыны як раней не ішлі ў сярэднюю школу, гэтак цяпер абыходзяць і ВНУ. Пэрспэктыўныя людзі скіраваныя на эміграцыю. Я магу сьцьвярджаць, што адбываецца сьвядомае выштурхоўваньне інтэлектуалаў зь Беларусі...

Сьмеху варта: у вышэйшых навучальных установах увялі школьныя дысцыпліны! Лёгіку, якую я выкладаў у ліцэі, рэлігіязнаўства, паліталёгію, курс "Правы чалавека" (у Расеі, да прыкладу, гэтыя дысцыпліны ў такім аб'ёме выкладаюцца ў школах). Гэта проста прафанацыя вышэйшае адукацыі.

З школьнага курсу выкрэсьліваецца цэлыя разьдзелы сусьветнае гісторыі, пласты сусьветнай літаратуры. Я не кажу пра Бадлера, Малярмэ, але нашыя вучні ня будуць ведаць, хто такі Мапасан.

**"НН": А Шэкспір?**

**А.С.:** Зь цяжкасьцю. Калі гэтак пойдзе далей, нашыя ўнукі ў параўнаньні з намі будуць вельмі неадукаванымі людзьмі, калі гаварыць пра гуманітарную падрыхтоўку. Дый нават у сэнсе матэматыкі... У прадмове да школьнай праграмы па матэматыцы зазначалася, што ейнае засваеньне не гарантуе паступленьня ў ВНУ на адпаведную спэцыяльнасьць. Тое ж было ў праграме па фізыцы, па хіміі. Каб паступіць, трэ было матэматыку, хімію, фізыку вучыць паглыблена. А цяпер і гэтую прымітыўную праграму пакарацілі.

## Дзяржава — як сабака на сене

**"НН": Але вернемся да зьезду. Чаму ягонае правядзеньне прымеркаванае да юбілею Якуба Коласа?**

**А.С.:** Якуб Колас — прыклад дэмакратычнага беларускага інтэлігента. Народны настаўнік, які не баяўся ўдзельнічаць у нелегальных зьездах, і тры гады адседзеў за гэта ў Пішчалаўскім замку (цяперашні Валадарцы).

**"НН": Хто будзе займацца падрыхтоўкай зьезду?**

**А.С.:** Пайменна я пакуль не скажу. Увойдуць людзі, абазнаныя ў літаратуры, мастацтве, пэдагогіцы, мэдыцыне.

**"НН": Ці мяркуе ініцыятыўная група кантактаваць з афіцыйнымі структурамі?**

**А.С.:** Вядома. Мы разумеем, што ў дзяржавы вобмаль грошай. Але ў такім выпадку яна не павінна душыць грамадзкую, прыватную ініцыятыву. А дзяржава паводзіцца як сабака на сене. Яна ня можа ўтрымліваць часопісы і газэты, але зрабіла ўсё, каб абваліць наклады, каб зьніклі рэдакцыйныя калектывы. На чале холдынгу паставілі чалавека, які ні дня не працаваў у літаратурна-мастацкіх выданьнях. Яму на дапамогу даюць дэмагога Новікава і трэцяраднаю паэтку Бондар. І прафаны даводзяць усё да ручкі. Якая падпіска на другое паўгодзьдзе на "Полымя", "Нёман", "Крыніцу", "Маладосць"? Яна страшэнна ўпала: у "Крыніцы", напрыклад, падпіска стала меншай за сто экзэмпляраў, наколькі я ведаю...

З другога боку, я радуюся, што самыя моцныя таленты не на баку гэтага рэжыму: Быкаў, Барадулін, Брыль і іншыя... Гэтыя людзі ня хочуць прымаць ад гэтай дзяржавы ўзнагародаў. Але ж дзяржава павінна задумацца. Некалі былі такія літаратары, як Стаховіч, Клімковіч, Алешка і іншыя майстры сацыялістычнага рэалізму. Ці ёсьць цяпер патрэба чытаць іх? І ў каго ёсьць такая патрэба?.. Сёньня ўлада абапіраецца на новых Стаховічаў і Клімковічаў. Яе трэба пашкадаваць.

**"НН": Ці не пэратворыцца зьезд у чарговую гаварыльню?**

**А.С.:** Я б вельмі не хацеў, каб гэта было звычайнае беларускае плаканьне, пералічэньне крыўдаў і бедаў. Гэта павінна быць наступальнае, канкрэтнае, канструктыўнае дзеяньне: чым мы можам дапамагчы самі сабе і сваёму народу? Трэба актуалізаваць лёзунг, неаднакроць фармуляваны Антонам Луцкевічам — "Самі сабе!", "*Pro domo sua*" (з лаціны — для свайго дому), як зваўся знакаміты артыкул у "Нашай Ніве" ў 1911 г.

**"НН": А самі Вы бачыце нейкія канкрэтныя мэтады, якія можна было б прапанаваць на гэты зьезд?**

**А.С.:** Трэба было б проста растлумачыць народу ўлёткамі, што ня варта радаваццa скарачэньню часу на навучаньне, аблягчэньню нагрузкі. Бо адбываецца дэбілізацыя школы, падае ўзровень навучаньня. Дзеці, скончыўшы школу, будуць неканкурэнтаздольнымі. Адпаведна зьніжаецца і ўзровень вышэйшае школы. Як казаў прафэсар Алег Лойка, з кожным годам усё менш інтэлектуальная студэнты. І гэта праўда. Іншы раз за галаву хапаешся: сталічны хлопец, вырас на асфальце, а кругагляд — як у хутаранца... Во страхоцьце якое! Яшчэ дзесяць гадоў таму такога не было.

**"НН": А ці зможа зьезд штосьці вырашыць, паўплываць на сытуацыю? Ці прыслухаюцца да яго?**

**А.С.:** Ва ўсякім разе, нейкае выйсьце шукаць трэба, бо ўлада разбурае прафэсійныя саюзы ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, стваракчы на іх месцы "жоўтыя". Трэба шукаць шляхі абароны — і сацыяльнай абароны інтэлігенцыі, і абароны права чалавека на адукацыю, на карыстаньне дасягненьнямі культуры, на інтэлектуальную ўласнасьць, на ахову здароўя.

**Гутарыў Аркадзь Шанскі**

# У паэтычным кутку

**Рэспубліканскае сьвята паэзіі ў Вязынцы сёлета было прысьвечанае 120-годзьдзю з дня нараджэньня Янкі Купалы.**

На радзіму Песьняра не прыехалі, хоць і былі запрошаныя на сьвята, Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч. Чаму — можна толькі гадаць. Увогуле, так атрымалася, што на паклон да Янкі Купалы не прыехаў ніводзін зь сёньняшніх народных паэтаў. Але, нягледзячы на гэта, сьвята паэзіі атрымалася сапраўды народным. Найшло і наехала 15 тысяч прыхільнікаў беларускага паэтычнага слова зь Менску, Маладэчна, навакольных мястэчак і вёсак.

Пасьля ўскладаньня кветак да помніка Песьняру было дадзена слова прэзыдэнту... Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Многія прысутныя, пачуўшы слова "прэзыдэнт", думалі ўбачыць Аляксандра Лукашэнку, але з натоўпу выйшаў пісьменьнік і навуковец Вячаслаў Рагойша. Затым высокія госьці сьвята, а сярод іх былі І.Карэнда, У.Дражын, Л.Гуляка і іншыя, наведалі Дом-музэй, дзе нарадзіўся Янка Купала, спыніліся ў "Паэтычным кутку", што быў арганізаваны каля сьвірна, — крыху паслухаць паэтычныя выступы. Тут рэй вёў галоўны рэдактар Беларускага радыё Навум Гальпяровіч. У часе сьвяточнага канцэрту "Паэзіі і музыкі спатканьне", калі ўсе запрошаныя ўжо сказалі, што для іх значыць Янка Купала, і вядучы хацеў перадаць пляцоўку музычным калектывам, да мікрафона прарваўся паэт Уладзімер Някляеў. Ён прачытаў верш, у якім былі такія словы: "Вярніце мову! Вярніце герб! Вярніце сьцяг!" У час выступленьня паэта над слухачамі ўзьвіліся два вялікія бел-чырвона-белыя сьцягі. Праўда, луналі нядоўга: міліцыя забрала сьцягі і ледзьве не скруціла іх уладальнікаў.





АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Леанід Падлужны**

Тадэвуш Гавін

# Пісьменьнік і памежнік

## *14 ліпеня — 10 гадоў з дня сьмерці пісьменьніка і дысыдэнта Аляксея Карпюка*

Гэты чалавек мне асабліва блізкі, бо ў свой час ён пэўным чынам паўплываў на мой лёс.

Упершыню я сутыкнуўся з Аляксеем Карпюком, калі служыў ва Ўладзівастоку ў 1987 г. Ён напісаў мне ліст. Гэта была рэакцыя на мой артыкул, дасланы ў газэту *"Гродненская правда"*. Я распавядаў пра сытуацыю з польскай нацыянальнай меншасьцю на Гарадзеншчыне, пра вывучэньне польскай мовы і навучаньне на ёй. Артыкула не надрукавалі, але яго далі пачытаць Карпюку. У сваім пісьме сп.Карпюк прасіў даслаць адрасы палякаў, якія таксама змагаюцца за навучаньне на роднай мове. На жаль, тады я такіх людзей у Горадні ня ведаў.

Гэта быў пачатак нашага з Карпюком знаёмства, якое пазьней перарасло ў сяброўства. Увосень таго ж году я перавёўся на службу ў Горадню. Памятаючы пра Карпюкова запрашэньне, прыйшоў да яго на працу, у дом-музэй Элізы Ажэшкі. Нягледзячы на актыўныя пошукі, Карпюк так і не знайшоў людзей, якіх можна было б уцягнуць у польскую адраджэнскую дзейнасьць. Таму ён вельмі ўзрушыўся, калі я прыйшоў. Карпюк адразу пранікся да мяне даверам, нягледзячы на маю форму афіцэра памежных войскаў, якія падначальваліся КГБ. Напэўна, ён вырашыў, што разам з аднадумцам у асобе маладога падпалкоўніка яму будзе прасьцей працаваць над вырашэньнем польскага пытаньня.

Карпюк, беларус, не хацеў мірыцца з тым, што палякі пазбаўленыя права вучыцца на роднай мове, ня маюць сваёй газэты і грамадзкай арганізацыі, якая бараніла б іх нацыянальныя інтарэсы. Карпюк паказваў мне ліст па польскім пытаньні, які ў красавіку 1987 г. ён даслаў М.Гарбачову. Ня ведаю, ці бачыў генсэк той ліст, але з ЦК КПСС яго пераадрасавалі ў Горадню — для высьвятленьня акалічнасьцяў. Адказ Карпюк атрымаў па тэлефоне ад намесьніка загадчыка ідэалягічнага аддзелу абкаму партыі Дзьмітрыя Аляшкевіча. Ён паведаміў. што праблемы, аб якой Карпюк напісаў генэральнаму сакратару, не існуе, бо палякі ніколі не зьвярталіся да ўладаў з просьбай адкрыць нацыянальную школу.

У сьнежні 1987 г. абураны Карпюк піша наступны ліст Гарбачову, у якім польскае пытаньне ў СССР параўноўвае з параходам "Адмірал Нахімаў", які "затануў ня толькі з-за недагляду капітанаў, а перадусім з-за таго, што быў састарэлым. Няма нічога дзіўнага ў тым, што палякі не зьвяртаюцца да ўладаў па дапамогу. Пытаньне ў тым, што самі ўлады ніколі не цікавіліся праблемамі нацменшасьцяў. На жаль, сёньняшняе грамадзтва пакуль ня здолела пазбавіцца страху перасьледаў за іншадумства".

На пачатку 1988 г. Аляксей Нічыпаравіч скардзіўся на адсутнасьць падтрымкі па польскім пытаньні з боку асобных сяброў Саюзу пісьменьнікаў БССР. Ён параіў мне напісаць лісты да яго і да Быкава з просьбай дапамагчы ў змаганьні за правы палякаў.

Летам 1988 г. мы з аднадумцамі стваралі польскае таварыства. Аляксей Карпюк прапанаваў назваць яго імем Яна Каханоўскага. Калі я сказаў, што мы аддаём перавагу Адаму Міцкевічу, ён пагадзіўся і павіншаваў з добрым выбарам.

10 жніўня 1988 г. у канфэрэнц-залі Гарадзенскага ўнівэрсытэту адбыўся ўстаноўчы сход Польскага культурна-асьветніцкага таварыства. Людзей сабралася многа, але адчувалася нейкая скаванасьць. Толькі пасьля бліскучага выступу А.Карпюка палякі пачалі адкрыта гаварыць пра набалелае, патрабаваць ад уладаў трымацца правоў, дэкляраваных савецкім заканадаўствам.

Пры канцы жніўня, на запрашэньне аддзелу культуры аблвыканкаму, у Горадню прыехала польская пісьменьніца Барбара Ваховіч. У праграму яе візыту адмыслова не ўключылі спатканьня зь мясцовымі палякамі. Абураны Карпюк парушыў плян, і сустрэча адбылася.

Мы зазвычай бачыліся з Аляксеем Карпюком у ягоным кабінэце. Калі трэ было пагаварыць пра штось надзвычай важнае, ён здымаў слухаўку, клаў яе на стол і прапаноўваў выйсьці на ганак. Размаўляючы, мы безьліч разоў абыходзілі вакол будынку, за намі са зьдзіўленьнем назіралі супрацоўніцы. Напэўна, яны не маглі зразумець, што супольнага можа быць паміж афіцэрам пагранвойскаў і паважаным у краіне пісьменьнікам.

Дзеля легалізацыі таварыства ў вачах польскіх уладаў Карпюк сустрэўся з генэралам Абядзінскім, польскім консулам у Менску, сябрам Ярузэльскага. На пачатку верасьня ў хаце маіх бацькоў у вёсцы Ласосьне зазваніў тэлефон. Я адказаў як звычайна: "Падпалкоўнік Гавін слухае". У трубцы адказалі: *"Czołem towarzyszu półkowniku z tej strony generał broni Obildziński"*... З гэтага моманту распачаліся мае афіцыйныя кантакты з прадстаўнікамі польскіх уладаў, бліскуча арганізаваныя А.Карпюком.

Праўда, пасьля сустрэчы з генэральным консулам вайсковае кіраўніцтва абвесьціла мне строгую вымову за "несанкцыянаваны кантакт з замежнікам". Праз паўгоду мне забаранілі працаваць з важнымі і сакрэтнымі дакумэнтамі, пазбавіўшы права выконваць мой прафэсійны абавязак. І гэта нягледзячы на тое, што мы з генэрал-палкоўнікам Абядзінскім былі вайскоўцамі краін-сяброў Варшаўскай дамовы. На паперы — саюзьнікі, а на самай справе...



Аляксей Карпюк (зьлева), Барбара Ваховіч і Тадэвуш Гавін ля дому-музэю Элізы Ажэшкі ў Горадні. 1989 г.

У 1989—90 г. я мала кантактаваў зь пісьменьнікам. Ён думаў, што зрабіў усё магчымае для легалізацыі нашай дзейнасьці, і назіраў, ці даюць палякі рады ў змаганьні за свае правы. Аднак, дазнаўшыся, што я буду вылучацца ў Вярхоўны Савет БССР ад мястэчка Сапоцкіна, прыехаў і выступіў там з прамовай. Ён разумеў, што, падтрымліваючы мяне, выступае супраць улады. Прамова Карпюка мела сапраўды вялікае значэньне. Многія ведалі яго як чалавека, які пасьля вайны працаваў простым настаўнікам у мясцовай школе, і паважалі яго. У выніку за мяне прагаласаваў 651 чалавек, а за майго канкурэнта — старшыню мясцовага калгасу — 240. Але пасьля выбары былі сфабрыкаваныя. Мне не хапіла ўсяго 122 галасоў, каб трапіць у Вярхоўны Савет. Праз некаторы час тэлефануе мне Карпюк і кажа: "Ну што, атрымаў урок? Памятай, што такіх людзей, як ты, яны да ўлады не дапусьцяць".

Перад устаноўчым зьездам Саюзу палякаў у 1990 г., на якім павінны былі абраць новае кіраўніцтва, я ня раз раіўся з Карпюком, як дзейнічаць. Ён заўсёды адказваў аднолькава: "Кіраваць саюзам". Якраз тады камандаваньне Заходняй памежнай акругі паставіла мне ўмову: калі я кіну грамадзкую дзейнасьць, дык атрымаю магчымасьць працягваць вайсковую кар'еру. Мне падавалася, што я магу адысьці ад польскіх спраў: працэс пайшоў і ня так важна, хто будзе ім кіраваць. Ведаючы пазыцыю Карпюка і адчуваючы вялікую адказнасьць за польскую справу, я зрабіў выбар на карысьць апошняй. Заставаўся польскім грамадзкім дзеячам і аднačасова начальнікам сувязі гарадзенскага памежнага атраду.

Гэты выбар паставіў кропку ў маёй вайсковай кар'еры. Праз год мяне звольнілі са службы ў прымусовым парадку. Мне было 40 гадоў. Савецкая дзяржава ня толькі зьнішчыла маю вайсковую кар'еру, але й пазбавіла мяне поўнай пэнсіі па выслузе гадоў. Праз некалькі дзён пасьля звальненьня я спаткаўся з Карпюком, які заўсёды раіў мне спалучаць службу ў арміі і грамадзкую дзейнасьць. Першы раз ён маўчаў...

У 1991—92 г. Карпюк шмат хварэў, аднак мы пэрыядычна сустракаліся. На пачатку ліпеня 1992 г. ён пачуўся вельмі кепска, і я наведаў яго дома. Гэты цяжка хворы чалавек паводзіў сябе настолькі нязмушана, быццам нічога ня здарылася. Праз некалькі дзён пасьля нашай сустрэчы патэлефанавала яго жонка. Я адразу зразумеў, што здарылася самае страшнае. Беларусь згубіла аднаго з найлепшых сыноў, а тутэйшыя палякі — свайго лепшага сябра. Усё жыцьцё Карпюк змагаўся за Бацькаўшчыну, каб зрабіць яе незалежнай, сувэрэннай, эўрапейскай. За Беларусь, у якой усім нам, людзям розных нацыянальнасьцяў, жылося б аднолькава ўтульна. Калісьці я запытаў Карпюка, чаму ён дапамагае менавіта палякам. Ён адказаў: "Можа, калі вы пачняце вывучаць сваю родную мову, будзеце мець польскія школы, тады і беларусы, нарэшце, пачнуць змагацца за свае правы".

Падчас пахаваньня Аляксея Карпюка ў Алеі Заслужаных на гарадзенскіх могілках я вельмі перажываў. Увесь гэты час я думаў, чым магу аддзячыць за ўсё, што ён зрабіў для нас. Урэшце стаў на калені і на сваёй роднай польскай мове памаліўся за супакой ягонай душы.

Ён памёр, так і не дачакаўшыся зьдзяйсьненьня таго, аб чым прасіў у сваім лісьце М.Гарбачова. Пройдзе чатыры гады пасьля ягонай сьмерці, і для польскіх дзетак адчыніць свае дзьверы польская школа ў Горадні. Яшчэ праз тры гады пачне працаваць польская школа ў Ваўкавыску. Ня ведаю, якімі былі б нашы посьпехі на ніве польскага адраджэньня, калі б не было Карпюка. Безь яго дапамогі і высокага маральнага аўтарытэту вырашыць усе тыя пытаньні, якія нам удалося вырашыць, было б куды больш складана.

**Тадэвуш Гавін — ганаровы старшыня Саюзу палякаў Беларусі**

# Выжыць у часе адпачынку



Працяг са старонкі 1.

Бо трапляюцца сярод іх экстрэмалы, здольныя дастаць са сьметніцы скарыстаны плястыкавы кубачак, ізноў напоўніць марозівам ды з усьмешкай падаць вам. На здароўе!

**Сымптомы:** гарачка, ваніты і панос, абязводжваньне арганізму.

**Што рабіць:** не марнуйце час на лячэньне “хатнімі мэтадамі”, кулём ляціце да доктара.

### Марская хвароба

Узьнікае з канфлікту між пачуцьцямі зроку і раўнавагі: вэстыбулярны апарат сыгналізуе ў мозг, што мы рухаемся, а вочы сьцьвярджаюць — што стаім (ці, хутчэй, сядзім) на месцы. Ад супярэчлівых сыгналаў “едзе дах”.

**Сымптомы:** галаўны боль, бледнасьць, патлівасьць, млосьць.

**Што рабіць:** сядзьце раўней, адкіньцеся галавой на сьпінку крэсла. У машыне і аўтобусе сядайце сьпераду (кіроўцаў практычна ніколі не загойдвае), каб загадзя бачыць пад’ёмы і спускі на дарозе, у самалёце — каля правага крыла (так раяць спэцыялісты-авіямэдыкі з Канзасу), а ў цягніку — лепей за ўсё ў вагоне для некурцоў, па ходзе руху і каля акна. Мэдыкамэнты? Ёсьць і яны, але скаляпамін, які там утрымліваецца, мае шмат пабочных эфэктаў (прыкладам, падвышэньне ціску і парушэньне сардэчнага рытму). Лепш паспрабуйце імберац — сапраўды дапамагае! Імбірныя цукеркі эфэктыўныя, бясьпечныя і... смачныя.

### Сьмерць у самалёце

За апошнія чатыры гады гэтак памерлі больш як сорак чалавек. Прычыны — раптоўныя зьмены ціску, паніжаная вільготнасьць і асабліва шматгадзінная нерухомасьць у часе доўгіх авіяпералётаў турыстычнай клясай, дзе разьмяшчэньне крэслаў не дазваляе выпрастаць ногі. Ускладненьне кровазвароту выклікае тромбы ў сасудах, тыя ў сваю чаргу — эмбалію лёгкіх, а яна...

**Што рабіць:** за колькі дзён перад палётам пачніце дзеля прафіляктыкі піць асьпірын. Ад яго зьніжаецца згусальнасьць крыві, і рызыка ўтварэньня тромбаў, адпаведна, меншае. Пазьбягайце нязручнага абутку, цеснай бялізны, гольфаў. Калі магчыма, сядзьце ля праходу — тады будзе лацьвей час ад часу разьмінаць ногі. Піце шмат вадкасьці — толькі бяз градусаў! Хіба што піва можна. Напоі, мацнейшыя за піва, а таксама кава, абязводжваюць арганізм, даючы вам выдатную магчымасьць працягнуць свой адпачынак на векі вечныя.

### Апёкі і цеплавыя ўдары

Іх трэба адрозьніваць міжсобку. Апёк — гэта вынік успрыманьня скурай надмернай колькасьці сонечных прамянёў за кароткі час. Удар — гэта вынік няўдалай спробы арганізму адаптавацца да высокай тэмпэратуры. Абедзьве гэтыя “прыемнасьці” найперш падпільноўваюць тых, хто пакутуе на цукровы дыябэт, сардэчна-сасудзістыя захворваньні, мае лішнюю вагу, прымае антыдэпрэсанты, антыгістаміны, мачагонныя ці сасудапашыральныя сродкі.



**Сымптомы:** пачырванелая, раздражнёная і нярэдка з пухірамі скура, сутаргі, галаўны боль, часам млосьць і ваніты.

**Што рабіць:** не шпацыруйце бяз шапкі між 11 і 15-й, калі найболей пячэ, апранайце свабоднае сьветлае адзеньне. Ужывайце крэмы супраць апёкаў. Памятайце, што некаторыя лекі і зёлкі (прыкладам, сьвятаяньнік) робяць скуру больш схільнай да апёкаў.

І не губляйце пачуцьця меры, іначай усе вакацыі праседзіце ў гатэлі, мажучы цела крэмамі, прымаючы халодныя ванны, прыкладаючы прымочкі з мокрага ручніка на лоб, шыю, плечы і ногі, а таксама кампрэсы з тоўчанага лёду. Апошнія не павінны цягнуцца даўжэй за 10 хвілінаў, інакш у дадатак да апёку можна зарабіць адмарожваньне.

### Інсэкты

Калі вы зьбіраецеся адпачываць паблізу густога лесу, пашы, балота, ракі ці пчальніку, майце на ўвазе, што аўтаматычна робіцеся хадзячай кармушкай для непрыкметных жыхароў гэтых мясьцінаў. За ежу яны плацяць звычайна балючым пухіром на скуры. Часам, аднак, даюць і “на чай”...

### Мушкі і камарыкі

Мошкі кусаюцца надзвычай балюча, як для сваіх мізэрных памераў. Як і ў камароў, крывасмокі сярод іх — адны самкі. У нашай мясцовасьці ўсялякія авадні бываюць ня столькі небясьпечныя, колькі дакучлівыя. Сапраўды ж небясьпечнымі (бо пераносяць паразытаў) зьяўляюцца адсутныя ў нас трапічныя віды.

**Сымптомы:** нясьцерпны сьверб, пухір, часам даволі вялікая пухліна, а іншы раз — цяжказагойная язва.

**Што рабіць:** варта запасьціся сродкамі, якія адпужваюць насякомых. Большасьць гэтых спрэяў ды мазяў утрымліваюць дыэтылаталуамід. Альтэрнатывай (кароткачасовай) можа стаць воцат, а таксама экстракты герані, мяты, ванілі, лаўровага ліста, гвазьдзіка, пятрушкі. Камароў ды мух адпужвае таксама дым ад вогнішча, асабліва калі кінуць у агонь трохі шалфею ці размарыну. Камары панічна баяцца паху вітаміну $B_1$.

Месца ўкусу камара лепей за ўсё апрацаваць спэцыяльнай мазьзю. Паколькі мухі пакідаюць адкрытыя ранкі, трэба дадаткова прамыць іх цеплаватай вадой ці сьпіртам.

### Кляшчы

Каб адбылося заражэньне, клешч павінен прасядзець пад скурай (звычайна — на плячах, галаве ці пад каленямі) найменей 12 гадзін, добра напіцца крыві, ператравіць яе і спаражніцца. У такім разе замест пляжнага лежака вы можаце рэшту адпачынку правесьці на бальнічным ложку. А ўсё з-за мікробаў, якія прысутнічаюць у сьліне кляшчоў і могуць выклікаць нават запаленьне мазгавых абалонак.

**Сымптомы:** заражэньне звычайна праяўляецца не адразу, і таму яго цяжка зьвязаць з укусам.

**Што рабіць:** кляшча трэба як мага хутчэй выдаліць з-пад скуры, лепей за ўсё выкручваючы, а ня проста выцягваючы ці выціскаючы. Калі кляшчова галава пры гэтым адарвецца, трэба, каб пазьбегнуць інфэкцыі, дастаць яе з дапамогай стэрыльнай іголкі. Калі ў месцы ўкусу зьявіцца чырвоная пляма, якая будзе павялічвацца, давядзецца папіць антыбіётыкі.

### Зьмеі

Трэба мець вельмі вялікае нешанцаваньне, каб натрапіць на зьмяю, што спакойна сабе грэецца на сонейку. Калі ўсё ж дайшло да ўкусу, паспрабуйце ўважлівей разгледзець агрэсара: бяскрыўдныя вуж ці мядзянка апроч сьледу зубоў у найгоршым выпадку падораць вам мясцовае запаленьне.

**Сымптомы:** звычайны для атручаньня набор з гарачкай і сутаргамі, часам страта прытомнасьці.

**Што рабіць:** прадэзінфікаваць рану, накласьці жгут ці сагнуць руку (нагу) вышэй месца ўкусу і старацца не варушыць ёю. Рану пакінуць адкрытай і як мага хутчэй зьвярнуцца да мэдыкаў, якія ўвядуць сываратку, што нэўтралізуе атруту.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Менчукі ратуюцца ад сьпякоты ў Сьляпянцы, дзе купаньне небясьпечнае для здароўя

### Зьвяры

Як бы вы ні любілі жывёлаў, падчас адпачынку лепш трымайцеся ад іх далей.

Лісы, яноты, куніцы, якія ад вас не ўцякаюць, могуць быць носьбітамі вірусу шаленства. І калі ўкусяць...

**Сымптомы:** не чакайце, пакуль яны зьявяцца, бо тады лячыцца будзе позна.

**Што рабіць:** рану пасьля ўкусу трэба старанна прамываць 20-працэнтным растворам мыла сама меней пяць хвілін, а потым прадэзінфікаваць, лепш за ўсё двума рознымі сродкамі. Глыбокія сьляды зубоў неабходна прапаласкаць цеплаватай вадой са шпрыца, а калі гэта немагчыма — апусьціць пакусаную частку цела ў ёдны раствор на паўгадзіны. Нельга яе туга перавязваць ці сшываць рану. Як мага хутчэй трэба зьвярнуцца да доктара, які ўвядзе проціслупняковую сываратку і вырашыць, ці трэба праходзіць курс прышчэпак ад шаленства.

### Атрутныя расьліны

Расьліны бясьпечныя? Сьмешна! Некаторыя, як, напрыклад, славуты баршчэўнік Сасноўскага, могуць нашкодзіць ужо адной сваёй прысутнасьцю непадалёк. Яны ўтрымліваюць ядавітыя алькалёіды, якія робяцца актыўнымі пад уплывам сьвятла і цяпла. У сонечныя і гарачыя гадзіны іх атрутныя выпарэньні могуць на адлегласьці выклікаць раздражненьне скуры і дыхальных шляхоў.

**Сымптомы:** цяжказагойныя апёкі, а ў крайніх выпадках — пухіры, якія хоць і разыходзяцца за 1—2 тыдні, але пакідаюць на скуры шнары і пачырваненьні.

А кветкі? Многія зь іх далёка не такія бяскрыўдныя, якімі здаюцца на першы погляд. Атрутныя, сярод іншага, рагулькі, макі, курасьлеп, пралескі ды сон. Найбольш небясьпечная расьліна — познацьвет. Яна ўтрымлівае такую канцэнтрацыю яду, што дастаткова неасьцярожна дакрануцца да двух зярнятак, каб адысьці ў іншы сьвет.

**Сымптомы:** атручэньне, панос, ірвота.

### Вывіхі, расьцяжэньні, сінякі

Захапленьне альпінізмам, як, зрэшты, любым іншым спортам, — лёгкі спосаб атрымаць дробныя траўмы, драпіны ці вывіхі, ня кажучы ўжо пра мазалі на нагах ці расьцяжэньні мышцаў.

**Што рабіць:** драпіны лепш за ўсё прамыць халоднай вадой, змазаць перад сном гаючай мазьзю ці ёдам, а нараніцу змыць мазь і абсыпаць прысыпкай. Адкрытыя месцы можна засьцерагчы ад небясьпекі плястырам. Мазалі пракалоць аднаразовай іголкай, выціснуць гной, заклеіць плястырам.

Калі пасьля ўдару, вывіху зьявіцца пухліна, дапаможа халодны кампрэс з раствору воцату альбо соды (чайная лыжка на паўшклянкі вады). Перад чарговым паходам сустаў трэба туга перавязаць элястычным бінтам.

Расьцяжэньні ўзьнікаюць у выніку празьмернага выдзяленьня малочнай кіслаты у непрызвычаеных да вялікай нагрузкі мышцах. Іх зьнікненьне можна паскорыць, ахаладжваючы пасьля нагрузкі часткі цела, якія баляць, вадой ці лёдам. Ідэальна дапамагае масаж. Можна ўжываць гарачыя ванны і разагравальныя мазі, якія, аднак, у большай ступені зьмякчаюць вынік, чым прычыну.

### Грыбы

Хоць грыбы смачныя, нізкакалярыйныя, зьмяншаюць узровень халестэрыну ў крыві і нават, паводле некаторых зьвестак, падвышаюць патэнцыю, яны могуць быць небясьпечныя. Памятайце:

— нельга зьбіраць грыбы на прамысловай тэрыторыі ці паблізу аўтатрасы (яны лёгка назапашваюць шкодныя рэчывы);

— зьбірайце іх у кошык, а не ў пакеты ці вёдры, і перапрацоўвайце ці сушыце адразу пасьля збору (грыбы хутка псуюцца, а прадукты іх распаду і бактэрыі могуць выклікаць сур’ёзныя атручаньні);

— не апускайце грыбоў у ваду, бо яны паглынаюць яе, як губка; чысьціце іх сухімі;

— зьбірайце толькі вядомыя вам віды, калі ж вагаецеся — лепей выкіньце грыб!

— смак можа вас ашукаць: напрыклад, бледная паганка, самы небясьпечны грыб нашых лясоў, мае прыемны саладкаваты смак;

— чарнеюць пасьля разразаньня як ядомыя махавікі, заечыя баравікі й падасінавікі, так і атрутныя пад’яловікі.

**Сымптомы** могуць выявіцца праз дзьве гадзіны, а могуць і праз некалькі дзён. Усё залежыць ад таго, чым вы атруціліся. Добра, калі ўсё абыдзецца лёгкай нястраўнасьцю. А можна ж зарабіць і жахлівае расстройства з моцнай млоснасьцю, болямі ў жываце, ванітамі, часам істотным абязводжваньнем і нават ныркавай недастатковасьцю.

Калі больніца далёка, належыць выклікаць ірвоту, затым выпіць слабіцельнае. Нельга ўжываць моцнай кавы ці гарбаты, каб не падвысіўся ціск, затое варта прыняць актываваны вугаль.

### Страўнік на вакацыях

Радыкальная зьмена мэню можа стацца шокам для страўніка. Асабліва калі вам “пашчасьціць” напіцца бруднай вады ці пакаштаваць ежы, якой ужо паласаваліся бактэрыі. Каб такога ня сталася, кіпяціце ваду ці дэзінфікуйце яе, напрыклад, 2-працэнтным растворам ёду або марганцоўкі; замаўляйце напоі бязь лёду; ня ежце сырых ці недавараных прадуктаў; гародніну і садавіну дэзінфікуйце (як ваду) ці абірайце.

**Сымптомы:** боль у жываце, панос, ваніты.

**Што рабіць:** шмат піць гатаванай ці бутэлечнай вады, каб унікнуць абязводжваньня арганізму. Потым дыету можна ўзбагаціць рысам, бульбай, варанай птушкай, рыбай і бананамі. Пазьбягайце алькаголю і кавы. Лёгкае атручаньне доўжыцца звычайна 1—2 дні, і без мэдыцынскага ўмяшальніцтва пры гэтым можна абысьціся. Пры моцным паносе прыміце актываваны вугаль. Калі сымптомы захоўваюцца доўгі час, ёсьць гарачка ці сутаргі, неабходна зьвярнуцца да доктара.

### Ахоўныя прышчэпкі

Калі едзеце адпачываць за блізкі сьвет, не забудзьцеся пра ахоўныя прышчэпкі. Іх няшмат (пералік залежыць ад краіны), яны недарагія, але могуць стаць доўгатэрміновымі інвэстыцыямі ва ўласнае здароўе. Так, прышчэпка супраць віруснага гепатыту B (жаўтухі) дзейнічае ня менш як сем гадоў, супраць жоўтай ліхаманкі — дзесяць гадоў, а супраць халеры — год. Лепей за ўсё прыйсьці ў паліклініку на абсьледаваньне месяцы за два да паездкі (некаторыя прышчэпкі робяцца ў некалькі этапаў).

Увагі! Прышчэпкі не абараняюць ад малярыі. Таму перад тым як выправіцца ў трапічныя балоты, выпішыце ў доктара процімалярыйныя лекі і пачніце прымаць напярэдадні выезду.

**Артур Уладарскі, Малгажата Залога, *Gazeta Wyborcza***

# *Кнігі поштай*



| Назва | Цана |
|---|---|
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №7 "Слоўнік свабоды" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №9 "Мэдыцына" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №6 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №8 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №1 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №5 "Украінскі нумар" | **3500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №4 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №6 | **1000 р.** |
| **Vostraja Brama 0: ГЛЁБУС Адам.** "Post Scriptum". 176 с. | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 1: БЫКАЎ Васіль.** "Пахаджане". 192 с. Кніга прыпавесьцяў, напісаных за час побыту пісьменьніка ў Фінляндыі і Нямеччыне | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 3: ЛУКАШУК Аляксандар.** "У фіялетавай ночы вугал крыла". 160 с. Кніга пра БССР 80-х. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце "Звязда", аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага "гома саветыкуса" | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 5: ГЛЁБУС Адам.** "Браслаўская стыгмата". 192 с. Новая кніга Адама Глёбуса, якую склалі апавяданьні апошніх гадоў | **2600 р.** |
| **АДАМОВІЧ Славамір. Турэмны дзёньнік.** Дакумэнты, дзёньнікі, вершы. 160 с., цьвёрдая вокладка. | **3500 р.** |
| **Беларуска-расейская інтэграцыя. Аналітычныя артыкулы.** 424 с. Рэдактура Валера Булгакава. | **3000 р.** |
| **Беларускі малітаўнік.** 784 с., цьвёрдая вокладка. Укладзены а.Аляксандрам Надсанам, выдавецтвы "Божым шляхам" (Лёндан) і "Сафія" (Полацак). Малітвы на кожную пару, на кожны дзень. | **5000 р.** |
| **Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету** ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі | **17000 р.** |
| **Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.** 480 стар. Зборнік артыкулаў, падрыхтаваных аналітычнай групай (Менск) і Цэнтрам дэмакратыі ва Усходняй Эўропе (Варшава), пад рэд. Валера Булгакава | **3000 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 4. Сшытак 1-2(6-7).** 318 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 1 (8).** 288 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 2 (9).** 692 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 6. Сшытак 1-2 (10-11).** 400 с. Часопіс | **2400 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 1 (12).** 302 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 2 (13).** 622 с. Часопіс | **1800 р.** |
| Біб-ка "БГА" 2: **КАНДЫБОВІЧ Сымон. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі.** 160 с. Праца Сымона Кандыбовіча (1891—1972) — адна зь першых спробаў дасьледаваньня гісторыі бальшавіцкіх рэпрэсіяў супраць інтэлігенцыі. Тэкст напісаны ў эміграцыі ў 1950-я. Асаблівую цікавасьць маюць аўтарскія характарыстыкі і замалёўкі, створаныя відавочцам падзеяў. | **3000 р.** |
| Бібл-ка БГА 7: **ПАНЬКОЎ Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—84).** 332 с. Кніга Міколы Панькова — энцыкляпэдыя эміграцыйнага жыцьця. Аўтар сабраў усе магчымыя зьвесткі пра акцыі, сьвяты, імпрэзы беларускіх дзеячоў, што воляю лёсу апынуліся на чужыне. Кніга зьмяшчае шмат фатаздымкаў з жыцьця беларускай эміграцыі. Ад накладу кнігі засталіся апошнія асобнікі. | **3200 р.** |
| Біб-ка БГА 9: **ТУМАШ Вітаўт. Выбраныя працы.** 246 с. Вядомы эміграцыйны гісторык, грамадзкі дзеяч і публіцыст Вітаўт Тумаш (1910—1998) вяртаецца ў Беларусь. У першую айчынную кнігу яго працаў увайшлі канцэптуальныя артыкулы, друкаваныя ў эміграцыйных часопісах, а таксама няскончанае дасьледаваньне жыцьця і навуковай спадчыны Яўхіма Карскага. | **3000 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.15: Мікалай УЛАШЧЫК. Выбранае.** 608 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшло самае істотнае з навуковай спадчыны Мікалая Улашчыка, а таксама краязнаўчыя нарысы, мэмуары, лісты. | **3300 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.16: Яўхім КАРСКІ. Беларусы.** 640 с., цьвёрдая вокладка. Ураджэнец Навагradчыны, акадэмік Расейскай імпэратарскай акадэміі навук Яўхім Карскі (1861—1931) усё жыцьцё вывучаў этнічную гісторыю беларусаў. Вынікам сталася шматтомнае дасьледаваньне "Беларусы". У кнізе — першы і трэці тамы "Беларусаў", якія не перавыдаваліся з 1916 г. | **4200 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.18: ЦЁТКА. Выбраныя творы.** 336 с., цьвёрдая вокладка. Самае поўнае выданьне твораў Цёткі (Алаізы Пашкевіч). | **3000 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.19: Натальля АРСЕНЬНЕВА. Выбраныя творы.** 592 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшлі ўсе самыя значныя творы паэткі: лірычныя вершы, лібрэта, пераклад "Песьні пра зубра" Гусоўскага, успаміны, лісты. | **4000 р.** |
| **Беларускія маршы і песьні.** 62 с. Зборнік патрыятычных песень з нотамі | **1000 р.** |
| **БУРСАЎ Андрэй. Дзівін. (Граняслоўі 1995-2002).** 152 с. | **2600 р.** |
| **Быць альбо ня быць сярэднеэўрапейцам.** Сучаснае польскае мысьленьне. 472 с. | **1800 р.** |
| **ДУБАВЕЦ Сяргей. Дзёньнік прыватнага чалавека.** 80 с. | **1000 р.** |
| **ЁРШ Сяргей. "Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў".** 36 с. Брашура прысьвечана асобе старшыні Беларускай незалежніцкай партыі, маёра Беларускай краёвай абароны й кіраўніка Беларускай вайсковай арганізацыі Усевалада Родзькі. | **1200 р.** |
| **НІСБЭТ Робэрт. Кансэрватызм: мара і рэальнасьць.** 136 с. Клясычная праца, прысьвечаная ідэям, вартасьцям, прынцыпам і догмам палітычнага кансэрватызму. Кніга была напісаная ў 1985—1986 гадах, у пару кульмінацыі нэакансэрватызму, зьвязанага з постацямі Рональда Рэйгана і Маргарэт Тэтчар. Аўтар аналізуе гісторыю і традыцыю кансэрватызму, ягонае стаўленьне да ідэяў розуму, прагрэсу і свабоды, ягоныя погляды на ўладу, рэлігію, мараль, уласнасьць. Кніга выйшла ў Вільні ў 2000 годзе і таму да беларускага чытача амаль не дайшла. | **2000р.** |
| **ПАДБЯРЭСКІ Зьміцер. Саксафон Чынгісхана.** 414 с. Апавяданьні, аповесьць, раман — добрая проза. | **3000 р.** |
| **Паліталёгія. Асноўны курс.** 680 с. Перакладзены зь нямецкае мовы фундамэнтальны падручнік паліталёгіі, напісаны прафэсарамі паліталёгіі ўнівэрсытэтаў Франкфурту-на-Майне, Бэрліну, Мюнстэру і г.д. | **3600 р.** |
| **РАМАНЮК Міхась. Беларускія народныя крыжы.** Цьвёр. вокладка. Ілюстраваная манаграфія прафэсара Міхася Раманюка рыхтавалася на працягу 25 гадоў дасьледаваньняў і вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі. Міхась Раманюк (1944—1997) сабраў мноства зьвестак пра беларускія крыжы, надмагільлі і пахавальна-памінальны абрад. На падставе дакумэнтаў ім зроблена поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя гэтых матэрыялаў, апісаныя ўсе формы і функцыі крыжоў, месцы іх установкі. Манаграфія зьмяшчае 303 фотаздымкі і 83 графічныя малюнкі. | **45000 р.** |
| **САГАНОВІЧ Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII стагодзьдзя.** 412 с., цьвёрдая вокладка. Сьціслы выклад гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў да яе ўключэньня ў склад Расейскай імпэрыі. | **4800 р.** |
| **САГАНОВІЧ Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667**. 144 с., цьвёрдая вокладка. Кніга пра драматычныя падзеі самай страшнай для Беларусі вайны. | **2400 р.** |
| **САГАНОВІЧ Генадзь. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI-XVII стст.** 79 с. На падставе дакумэнтальных крыніцаў і малавядомых дасьледаваньняў асьвятляецца гісторыя ўзброеных сілаў ВКЛ XVI—XVII стст. | **1800 р.** |
| Сэрыя "Schmerzwerk": **БАХАРЭВІЧ Альгерд. Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў.** 152 с. | **1800 р.** |
| Сэрыя "Schmerzwerk": **БАШУРА Міхась. Паляваньне на мух са шланга.** 64 с. | **900 р.** |
| Сэрыя "Schmerzwerk": **ВІШНЁЎ Зьміцер. Тамбурны маскіт.** 256 с., цьвёрдая вокладка. | **3300 р.** |
| Сэрыя "Schmerzwerk": **СІН Ільля. Нуль.** 108 с. | **1800 р.** |
| **СТАНКЕВІЧ Ян. Збор твораў у 2-х тамах.** 1-ы 552 с., 2-гі 586 с. У 1-ы том Збору твораў мовазнаўцы Яна Станкевіча (1891—1976) увайшлі працы, напісаныя паміж 1918 і 1951 г., у 2-і — паміж 1951 і 1973 г. Пераважная бальшыня апублікаваных твораў раней была недаступная беларускаму чытачу. | **9000 р.** |
| **ХАРЭЎСКІ Сяргей. "Зьвяры-суайчыньнікі".** 92 с. Кніжка прапануе чытачу незвычайны погляд на жывёльны сьвет Беларусі. Прадмову напісаў Ул. Арлоў | **500 р.** |
| **Хрысьціянскі філязофскі зборнік.** 168 с. Укладзены з артыкулаў сучасных філёзафаў (Ж.Кацье, Д.Басьці, А.Малінара, Б. дэ Анджэліс і інш.), якія разглядаюць праблематыку магчымых кірункаў актуальнай хрысьціянскай філязофскай думкі ў яе тэарэтычным і гістарычным аспэкце. | **1200 р.** |

Цэны ў каталёгу — для Менску. Для рэгіёнаў прадугледжаныя зьніжкі (30% — для распаўсюднікаў і аптовых пакупнікоў, 10% — для прыватных асобаў). Да супрацоўніцтва запрашаюцца таксама выдаўцы, зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі праз сыстэму "Кнігі — поштай".

Каталёг з вокладкамі і анатацыямі можна пабачыць у Інтэрнэце: http://knihi4u.cjb.net.

Кантакт: п/с 537, 220050, Менск; пэйдж.: 289-12-12 аб.116133; e-mail: exlibris@tut.by

Шаноўнае спадарства! Калі дасылаеце замовы, падавайце падрабязныя і дакладныя зьвесткі пра сябе і як мага больш кантактаў (тэлефон, пэйджэр, e-mail) для найхутчэйшага выкананьня вашых замоваў.

мэдыцына

# Як падмануць рак

**Рак можна падмануць, сьцьвярджаюць навукоўцы ў апошнім нумары часопісу *"Science"*. Прычым настолькі пасьпяхова, што ён будзе зьнішчаць сябе сам.**



Новы мэтад барацьбы трохі нагадвае тактыку, вядомую карыстальнікам кампутараў з праграмным забесьпячэньнем ад "*Microsoft*": калі машына не рэагуе на каманды — выключы і ўключы яшчэ раз. Вучоныя са Стэнфардзкага ўнівэрсытэту гэтак "адключылі" ў клетках мышы (ня толькі ракавых) адзін ген, які адказвае за рост і дзяленьне клетак, а калі зьведвае мутацыю — загадвае ім дзяліцца бесьперастанку.

— Мы не чакалі цудаў, — расказвае прафэсар Дын Фэльшэр, кіраўнік дасьледчай групы. — Ніхто дагэтуль не назіраў, каб адключэньне ракавага гену на некалькі дзён выклікала незваротныя зьмены. Большасьць меркавала, што рак зноў пачне разьвівацца, як толькі мы спынім прыгнятаць гэты ген.

Аднак пасьля таго, як мутацыйны ген паўторна пачынаў працаваць, рак не аднавіўся. Замест гэтага ракавыя клеткі, што пасьпелі ўтварыцца, пачалі масава самазьнішчацца.

Праўда, у асобных грызуноў праз некаторы час рак зноў пачынаў разьвівацца, але дастаткова было пару дзён "паглушыць" дэфэктны ген, каб паўторна зацугляць рост пухліны.

— Гэта можа зьмяніць падыходы да лячэньня новаўтварэньняў, — камэнтуе Фэльшэр. — Каб змагацца з ракам генэтычнымі мэтадамі, ня трэба выключаць мутацыйныя гены назаўсёды. Дастаткова зрабіць гэта на некаторы час.

Прыкметы ракавых захворваньняў былі знойдзеныя на выкапнёвых костках часоў нэаліту, у эгіпэцкіх муміяў, а таксама на парэштках амэрыканскіх індзейцаў, што жылі ў дакалюмбаву эпоху. Апісаньні злаякасных пухлінаў сустракаюцца на эгіпэцкіх папірусах, клінапісных бабілёнскіх таблічках і старажытнаіндыйскіх манускрыптах. Грэк Гіпакрат ужо адрозьніваў дабраякасныя і злаякасныя пухліны, а рымлянін Гален ведаў, што злаякасныя могуць распаўзацца па целе.

З пачатку XX ст. колькасьць захворваньняў на рак рэзка павялічылася — гэта зьвязана як з паляпшэньнем дыягностыкі й выяўленьнем раней нявызначаных выпадкаў, так і з "старэньнем" зямлянаў. Значна больш зрабілася сталых людзей, у якіх рак сустракаецца часьцей.

Дырэктар Навукова-дасьледчага інстытуту анкалёгіі й мэдычнай радыялёгіі Язэп Залуцкі сьведчыць, што ў Беларусі кожныя 16 хвілінаў рэгіструецца выпадак захворваньня на рак. Летась у краіне было выяўлена 33 тыс. хворых.

Для параўнаньня: у ЗША штогод фіксуецца 450 новых выпадкаў на 100 тыс. насельніцтва, а штогадовы паказьнік сьмяротнасьці — 205 на 100 тыс. У многіх краінах гэтыя сумныя лічбы нашмат большыя: у Вугоршчыне й Чэхіі — на 40%, у Вялікай Брытаніі — на 10—20%. У розных краінах дамінуюць розныя віды раку. У Японіі — рак страўніка, у Кітаі — рак пячонкі, а сярод афраамэрыканцаў у ЗША — рак прастаты. Прычыны такіх адрозьненьняў няясныя; тут, відаць, адыгрываюць ролю асаблівасьці харчаваньня і навакольнага асяродзьдзя, бо ў грамадзе мігрантаў гэтыя паказьнікі часта зьмяняюцца на характэрныя для новага месца жыхарства.

**Павал Бурдыка, паводле Reuters, "Gazeta Wyborcza"**

генэтыка

# Воўк з сумкай

**Хоць сумчаты воўк ужо гадоў 60 як вымер, пра яго ў Аўстраліі гавораць больш, чым пра сьнежнага чалавека ці іншаплянэцянаў.**

Гісторыя гэтага зьвера, вядомага таксама як сумчатая гіена ці тасманскі тыгр (з-за палосак на сьпіне), вельмі трагічная. Хапіла 130 год эўрапейскага гаспадараньня ў Тасманіі, каб ад яго, адзінага прадстаўніка свайго сямейства і адзінага буйнога сумчатага драпежніка, застаўся толькі чорна-белы здымак, гэткі ж фільм, а таксама сотні пудзілаў або засьпіртаваных трупаў.

Воўк зьнік, бо белыя фэрмэры былі пэўныя, што ён палюе на іхных авечак. У 1830 г. — праз 30 гадоў пасьля зьяўленьня першых белых пасяленцаў — за галаву ваўка была прызначаная ўзнагарода. Гэта быў прысуд для зьвера.

У 1924 г. трапэр Вальтэр Мулінз злавіў на поўдні Тасманіі сумчатую ваўчыху з трыма шчанюкамі. Усе яны былі прададзеныя ў заапарк у Хобарце. Ваўчыха неўзабаве памерла, ваўчаняты пратрымаліся трохі даўжэй. Першае сканала ў шэсьць гадоў ад хваробы нырак; гэта было ў 1930 г. Другое — у ліпені 1935-га. Апошні з чацьвёркі, якога назвалі Бэньямін, скончыў сваё існаваньне пасьля амаль 12 гадоў жыцьця ў няволі — у верасьні 1936 г. Ён быў апошнім вядомым навуцы прадстаўніком свайго віду. Шасьцю гадамі раней ад стрэлу фэрмэра загінуў апошні вольны зьвер.

Пасьля гэтага сумчатых ваўкоў ніхто ня бачыў. І хоць ёсьць энтузіясты, перакананыя, што зьвер яшчэ хаваецца недзе ў тасманскіх лясох, у 1979 г. аўстралійскі ўрад афіцыйна прызнаў від вымерлым. Але ці сапраўды сумчатага ваўка нікому ўжо не наканавана ўбачыць? Тут пачынаецца фантастычная гісторыя, прадстаўленая ў фільме каналу "Дыскавэры".

Прафэсар Майк Арчэр, дырэктар Аўстралійскага музэю ў Сыднэі, перакананы, што магчымасьць вяртаньня сумчатых ваўкоў у Тасманію існуе. Праўда, ён ня верыць, што ваўкі маглі выжыць недзе ў нетрах тасманскіх лясоў. Адзіным шанцам на вяртаньне сумчатага ваўка зьяўляецца запаянае 144 гады таму ў колбу, залітую сьпіртам, ваўчаня — самы каштоўны на сёньня экспанат Аўстралійскага музэю, які захоўваецца ў сэйфе і мае ўласнага ахоўніка. Ён зьмяшчае генэтычную інфармацыю, закансэрваваную ў сьпіралях ДНК. Трэба толькі знайсьці спосаб выдзеліць яе з клетак. Гэта, аднак, няпроста, паколькі ваўчаня нельга даставаць з колбы даўжэй чым на сорак хвілінаў.

У лютым у лябараторыях музэю адбыўся пералом. Удалося размножыць ланцужок ДНК вымерлай жывёліны. Вучоныя атрымалі магчымасьць дубляваць ДНК мільёнамі копій. Прафэсар Арчэр паведаміў, што ўдалося знайсьці ДНК у добрым стане яшчэ ў двух фрагмэнтах астанкаў. Але ці азначае гэта, што прафэсар Арчэр і ягоная каманда ўшчыльную падышлі да клянаваньня вымерлага віду? Зусім не. Няма яшчэ храмасомаў (а ў сумчатага ваўка іх мусіць быць сем параў), кожную зь якіх трэба будзе старанна скампанаваць з 100 тысяч генаў. Ніхто яшчэ не ўзнаўляў з ДНК віду, прадстаўнікі якога даўным-даўно ня ходзяць па зямлі. Дый хто будзе выношваць зародак ваўка? Можа, тасманскі д'ябал — найбольшы зь яшчэ існых сумчатых драпежнікаў. Але ён ня дужа блізкі сваяк сумчатаму ваўку.

Арчэру і ягоным калегам перашкаджаюць ня толькі прырода, неразьвітасьць тэхналёгіі ці брак фінансаў. Шмат хто злуе на дасьледчыка, які "гуляе ў Госпада Бога". Арчэр кажа, што злачынствам было зьнішчэньне віду і злачынствам было б не скарыстаць магчымасьці, якую дае навука, каб гэты від адрадзіць.

Дзеля папулярызацыі ідэі "ажыўленьня" сумчатага ваўка, быў зьняты цэлы "дакумэнтальны фільм" пра яго. Яго стваральнікі дасканальна вывучалі старыя фатаграфіі і фільмы, аглядалі шкілеты і чучалы. Іхны робат вельмі нагадвае дзікую жывёліну. Ня дзіва — ён мае такую самую сыстэму цяглiцаў, як сумчаты воўк, а футра, якое выглядае натуральна, складаецца зь мільёну пучкоў штучных валасінак, кожны зь якіх мае свой колер, даўжыню і г.д. Фільм робіць яшчэ больш праўдападобным кампутарная анімацыя.



А калі мы ўбачым ваўка з плоці і крыві? "Вельмі хацеў бы дажыць да гэтага. Нашая мэта — аднаўленьне нармальнай, здаровай папуляцыі ваўкоў, — гаворыць Арчэр. — Першы зь іх, магчыма, зьявіцца на сьвет праз 10—15 гадоў".

**"Discovery", "Gazeta Wyborcza"**

кіно

# Мода на мазгі

**Галівуд шукае новага героя для баевікоў. Шварцэнэгеру і Сталонэ ідуць на зьмену "інтэлектуалы" — Бэн Афлек і Мэт Дэйман.**

Дзіўныя часы надышлі. Усе сучасныя кінагероі — здыхлікі нейкія. У "Чалавеку-павуку" лёс Нью-Ёрку ляжыць на маленькіх далоньках Тобі Магуайра, што граў зацюканых падлеткаў у "Цудоўных хлопцах" і "Ледзяной буры". Барацьбу са злом у "Валадару пярсьцёнкаў" узначальвае бледны вялікавокі Элайджа Вуд, у якога, здаецца, яшчэ нават барада не расьце. Ня кажучы ўжо пра Гары Потэра (Дэніэл Рэдкліф), занадта маладога, каб кіраваць чым-небудзь, апроч мятлы. Арнольд Шварцэнэгер мог бы іх усіх на адну далонь пасадзіць, а другой расьцерці. Але ён праайграе гэтым недамеркам у змаганьні за гледача, як і Сыльвэстар Сталонэ ды Стывэн Сыгал.

Колішнія тытаны баевікоў пад пагрозай выміраньня. Галівудзкія прадусары даўно прадбачылі, што іх трэба будзе замяніць новым пакаленьнем герояў. Студыя "Юнівэрсал" зрабіла стаўку на мускулятуру Дуэйна Джонсана, вядомага таксама як "Скала". У фільме "Цар скарпіёнаў" ён ідзе Арнольдавымі сьлядамі: крышыць усё, што сустракаецца ў яго на шляху. Але "Скала" — выключэньне з правіла. У сучасных баевіках мазгавыя зьвіліны зрабіліся важнейшымі за магутныя біцэпсы. Кінавытворцы знаходзяць новых зорак у акторскіх школах, а не ў спартзалях. А надзвычайны посьпех фільму "Анёлы Чарлі" сьведчыць, што героем касавага баевіка можа быць і жанчына. Таму паўстае пытаньне: хто з актораў маладога пакаленьня будзе аднолькава пераканаўча ставіць пасткі на шпіёнаў, перамагаць нікчэмных ворагаў, фліртаваць з наступніцамі Шэран Стоўн ды ратаваць дэмакратыю? Іншымі словамі, хто зойме месца вялікага Гарысана Форда?

Ролю агента Джэка Раяна, якога раней ігралі Гарысан Форд і Алек Болдуін, у фільме "Сума ўсіх страхаў" атрымаў Бэн Афлек. Паколькі актор гадоў на трыццаць маладзейшы за сваіх папярэднікаў, герой фільму таксама перажыў мэтамарфозу. Цяпер ён агент-пачатковец, якога толькі-толькі ўзялі ў ЦРУ. Раян занадта многа ведае пра новага расейскага прэзыдэнта Немерава (Сайран Хіндз) і таму апынаецца ў эпіцэнтры гісторыі, ад якой кроў халадзее. Злучаныя Штаты і Расея стаяць на парозе ўзаемнага зьнішчэньня. Абудзіў варожасьць адзін вельмі паскудны багацей, аўстрыйскі нэанацыст, якога сыграў Алан Бэйтс.

У выніку Бэн Афлек паўстаў перад надзвычай сур'ёзнай акторскай задачай: ён павінен выратаваць сьвет і адначасова прымусіць гледачоў забыцца пра Форда і Болдуіна, якія раней выконвалі гэтую ролю. Для Афлека гэта асабліва складана, бо яго ўжо звыклі бачыць у ролях задзірлівых, неспрактыкаваных япі і ў шэраг супэрмэнаў ён ня ўпісваецца. Афлек — як баксёр сярэдняй вагавай катэгорыі, які грае ў матчы цяжкавагавікоў. Аднак рэжысэр "Сумы ўсіх страхаў" Філ Алдэн Робінсан лічыць, што гэта, наадварот, адзін з наймацнейшых бакоў Афлека: "Бэн не зьяўляецца героем тыпу "мача". Ён вызначаецца чуласьцю і інтэлігентнасьцю".

Раян, сыграны Афлекам, — не культурыст, а хлопец, якіх шмат. А калі ягоная бравада нас не пераконвае, дык у тым не віна актора. Пасьля 11 верасьня мы па-іншаму ўспрымаем апакаліптычныя трылеры. Фільму, зьнятаму перад памятнай датай, цяжка паставіць нешта ў віну. Ён добра зроблены, трымае ў напружаньні і можа быць залічаны да тыповых летніх блякбастэраў. Герой мае адпаведнае свайму статусу заданьне, а выбух атамнай бомбы — які прынёс бы куды больш бяды, чым атака на Сусьветны гандлёвы цэнтар, — гэта ўсяго адна зь перашкод на шляху да мэты.



Бэн Афлек (справа) і Мэт Дэйман ідуць на зьмену Шварцэнэгеру і Сталонэ

Карцінаў, у якіх стрыжнем сюжэту будзе станоўчая місія героя, мы ўбачым болей. Мэт Дэйман сыграе ў фільме "Тоеснасьць Барні" агента ЦРУ, які страціў памяць. Працадаўцы вырашаюць пазбыцца яго, пакуль не дайшло да скандалу. Падчас боек Дэйман ужывае прыёмы каратэ, крышыць дзьверы, страляе, фэхтуе, вісіць на дахах і мчыцца вуліцамі Парыжу ў найлепшай сцэне аўтамабільнай пагоні з часоў "Ронін". Усё гэта ён робіць без залішняй бравады, але вельмі пластычна і вытанчана. І мы не сумняваемся ў ягонай інтэлігентнасьці.

Дагэтуль Дэйман не здымаўся ў баевіках, бо не знаходзілася сцэнарыста, які прыйшоўся б яму даспадобы. А "Тоеснасьць Барні" рэжысэра Дага Лімана вызначаецца не абы-якім напружаньнем. Гэты фільм, зроблены паводле схемаў "паліцэйскага кіно", падобны да "Сумы ўсіх страхаў" — толькі здаецца сьвяжэйшым, лягчэйшым для ўспрыманьня і менш патасным. "Каб уцячы з аточанага будынку, Барні ўжывае карту і рацыю, а ня зброю, — кажа Дэйман. — У фільме няма неапраўданага гвалту і выбухаў".

***Паводле "Gazety Wyborczej"***

паэзія

## Усевалад Гарачка



### *Практыкаваньне ў вэрлібры*

Разумныя
Вершы Разанава,
Але няма ў іх
Ні любові, ні моцы.
Ёсьць нястрымнасьць стыхіі
Ў вершах Сыса,
Але і ім
Бракуе любові.
Няма яе ў вершах Пранузы.
Няма яе
І ў гэтых радках.
Але скажыце:
Навошта любові вершы?

* * *

*Віктару Сьлінку*

Так,
Яна была зоркай,
І, каб пабачыць яе,
Ты чакаў ночы
Ці спускаўся
Ў цёмны халодны калодзеж.

Яна была зоркай,
Але не тваёй.
Твае ж былі —
Ноч і калодзеж.

* * *

Пакалоўся аб куст
шыпшыны:
Расьцьвіла на далоні кроў.

дзе варта быць

## Марлен у Менску



У менскім кінатэатры "Перамога" (вул.Інтэрнацыянальная, 20) ладзіцца юбілейны паказ фільмаў з удзелам славутай Марлен Дытрых, падрыхтаваная асацыяцыяй "Кінаклюб" і Гётэ-Інстытутам. 15 ліпеня — "Бялявая Вэнэра"; 16 ліпеня — "Дэстры зноў у сядле"; 17 ліпеня — "Марлен Дытрых. Гісторыя жыцьця"; 18 ліпеня — "Блакітны анёл". Пачатак сэансаў а 19-й. А ў Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Скарыны. 47) з 16 ліпеня пачне працаваць фотавыстава, прысьвечаная Марлен Дытрых.

## Гомельскі гіт-парад (вынікі за студзень—чэрвень 2002 г.)

**Аўдыёкасэты**

1. "Легенды Вялікага Княства"
2. "Хавайся ў бульбу" ("Крама")
*3–5.* "У краіне талераў" ("Камэлот"), *"Hard Life – Heavy Music"* (зборнік), "Нефармальны беларус" (С.Сокалаў-Воюш)

**CD**

1. "Я нарадзіўся тут"
2. "Хавайся ў бульбу" ("Крама")
3. Зборнік *"Hard Life – Heavy Music"*

**Кнігі**

1. Г.Сагановіч "Нарыс гісторыі Беларусі"
2. М.Ермаловіч "Беларуская дзяржава ВКЛ"
3. У.Арлоў, Г.Сагановіч "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі"

**Відэакасэты купляюць вельмі рэдка.**

# Чайкоўскі і каралі

Мастак з Баварыі Толік Чайкоўскі малюе зболышага рэалістычныя партрэты на замову сваіх суседзяў. Часта баварцы прыносяць фатаздымкі сваіх жонак і дзяцей, каб мастак перанёс дарагія вобразы на палатно. Нясуць і выявы любімых жывёлаў — коцікаў і сабачак, нават прыводзяць сваіх чатырохногіх сяброў на сэансы ў якасьці натуршчыкаў. Але найчасьцей мастаку замаўляюць выявы каралёў. Цяпер у Нямеччыне модна мець у хаце партрэт якой гістарычнай асобы — рыцара, князя, караля.

Толік Чайкоўскі нарадзіўся пасьля вайны ў сям'і беларусаў-эмігрантаў. Скончыў Акадэмію мастацтваў і абраў для сябе дарогу ў абстрактным маляваньні. У 1991-м ён упершыню апынуўся на радзіме бацькоў. Прыехаў не з пустымі рукамі — прывёз вялікую калекцыю сваіх карцінаў і малюнкаў, якую пасьля падараваў беларускаму Міністэрству культуры.

А за маляваньне саксонскіх, прускіх і баварскіх каралёў Чайкоўскага прымусіла ўзяцца нястача. Тым больш што за майстэрства немцы грошай не шкадуюць. Выстаўляецца Чайкоўскі вельмі рэдка, але абстрактанага маляваньня ня кідае. Жыве адзін. Зрэдку наведваецца ў Мюнхен да старога бацькі, таксама мастака, да дачкі і сына. Выставы ў Беларусі не пляную, але ня супраць, каб такая магчымасьць знoўку зьявілася.

**Вольга Кляшчук. Фота аўтаркі**

Зьнізу: мастак Толік Чайкоўскі ў сваёй майстэрні



Наталка Бабіна

# ПАСТКА ДЛЯ КРАТА



Працяг. Пачатак у №23–25.

**...Студэнтка менскае Палітэхнікі Яніна знаходзіць на сваім лецішчы труп невядомага чалавека, а назаўтра ледзьве ня робіцца ахвяраю невядомага забойцы. Каб даць адпачыць затлумленай галаве, яна заходзіць у студэнцкую піцэрыю й сустракае аднакурсьніка Кастуся, у якога таксама сур'ёзныя праблемы...**

Відаць было, што ён не жартуе.

— Ты сур'ёзна? Што здарылася?

— Мяне выключаюць з акадэміі. Звольнілі з катэдры за спазьненьне, выгналі з інтэрнату: не прайшоў у час флюараграфію. Кароста асабіста прыходзіў выносіць мае рэчы.

— Кастусь, ты што кажаш такое? Цябе выключаюць?! І Фрэбэрг дазволіў? Ды ён жа рэктарат разьнясе ў шчэпы!

Косьця зьняў акуляры, нізкавока прыжмурыўся і ціха сказаў:

— Аляксандра Ісакавіча тут больш няма.

Калі б ён выкаціў з-за сьпіны гармату ды пальнуў у куток, то не выклікаў бы большага зьдзіўленьня. Я зьнямела.

— Як гэта няма? Ён... памёр?

— Не, не памёр, Бог з табой! Зьехаў у Нью-Ёрк.

— У Нью-Ёрк! Во як!.. Але чаму... ("...ён мне нічога не сказаў" — ледзь не зьляцела зь языка.) Але чаму?

Канстанта пацісвуў плячыма.

— Чаму даўно ўжо ня зьехаў, лепш спытала б. А апошнім часам яму далі зразумець... У тым самым рэктарацe... Дый ня толькі там. Фрэбэргу падпалілі дзьверы і пабілі вокны ў кватэры. Чаго было чакаць? У яго ж сям'я, дачка...

Бармэн сам прынёс замоўленую піцу.

— Пабачыў, што вы занятыя, вырашыў прынесьці.

Я паглядзела на яго, не адразу зразумеўшы, што да чаго.

— Дзякуй, Пятро. Зрабі ласку, Канстанты, ня дай прапасьці дабру. Я замовіла, але нешта мне ніякавата — зьеж ты, калі ласка.

Канстанта каўтнуў сьліну.

— Ты сапраўды ня хочаш?

— Не, не хачу. Прабач, я ненадоўга адыдуся.

Пахістваючыся, дабрыла да прыбіральні. Музыка сюды не даносілася, і я адчула, як тахкае ў скронях кроў.

Ну вось, абышліся з табой, як з курвай. Абапіраючыся на ракавіну, я халодна і павольна разглядала сябе ў люстры. Белыя валасы над ілбом, карыя вочы, поўныя вусны — мне захацелася самой сабе ўчапіцца кіпцюрамі ў твар, раздрапаць сьветлую скуру, біцца галавой аб сьцяну... Спакайней, Яніна. Няма ніякай бяды. Спакайней.

...Гісторыя з Фрэбэргам пачалася таму, што мая маці памерла ад раку — хутка і страшна. Я не магла жыць. Не магла быць дома, між сьценаў, што бачылі яе агонію. На занятках я сядзела як за шчыльнай заслонай, праз якую не праходзіла нічога — ні гукаў, ні сьвятла. Не рэагавала на словы. І сябры, і выкладчыкі ведалі пра гэта — мяне ніхто не чапаў. Ніхто, акрамя Фрэбэрга.

Я цяпер разумею, што ён назіраў за мной, і вось на адным з заняткаў выклікаў да дошкі. Ясная рэч, я нават ня ведала, зь якога боку падступіцца да практыкаваньня з матаналізу. І не хацела ведаць: мне было ўсё адно. Я нават не зусім усьведамляла, што са мной і дзе я, — перад маімі вачыма стаяў мамін твар, з голым з-за хіміятэрапіі чэрапам, з адвіслай сківіцай. Апошнія пяць дзён яна была непрытомнай і ўвесь час стагнала... Стоячы ля дошкі з крэйдай у сьціснутых пальцах, я чула толькі гэтыя стогны... І раптам пачуўся кплівы голас Фрэбэрга — поўныя жоўці, рэзкія словы:

— ...поўнай дурніцай. Так, так, поўнай дурніцай. Што вы глездзіцё на мяне, як на выкапня? Гэта я павінен на вас так глядзець — стаіцё, як слуп, і ня можаце рашыць просьценькую задачу. Вы што, ідыётка? А мо ў вас крытычныя дні? Ці гэта ваш звычайны фізіялягічны ўзровень разьвіцьця? Але ў такім разе даводжу да ведама: ёлупням месца не ў інстытуце, а ў Навінках.

— У яе маці памерла, — ня вытрымаў нехта з нашых.

— Вельмі шкада. Але такой дурніцы, як вы, бяз маці толькі лепш. Вясёлей.

Гэтыя абразы даходзілі да мяне з пэўнай затрымкай — як у фільме, калі гук не супадае з выявай. Калі дайшлі апошнія словы, са мною нешта стала. Мяне ўдарыла дрыготка. Я пачырванела. Фрэбэрг стаяў ля акна і пільна назіраў за мной. Я закрычала "Быдла, быдла!" і шпурнула ў яго крэйду, шматку, яго паперы, якія ляжалі на стале, партфэль і, нарэшце, крэсла, на якім ён сядзеў. Дзе-чым пацэліла. Сьлёзы паліліся зь мяне ўпершыню пасьля пахаваньня, і, захлынаючыся імі, я кінулася з аўдыторыі. Зарэмбачка паляцела за мной, і ў туалеце, дзе я асела на падлогу, доўга моўчкі гладзіла мяне па валасах.

З таго дня я стала выходзіць на сваё. Жыцьцё паціху вярталася. Бацька ўздыхнуў з палёгкай.

Я многа думала, чаму Фрэбэрг так жорстка мяне зьняважыў. Вядома, ён заўсёды гаварыў з студэнтамі іранічна, мог насьміяцца зь нязграбнасьці, але кпіны яго былі вясёлыя — у яго на занятках іншы раз аж стагналі ад рогату... За што ж ён так зь мяне?

На "вышку" я не хадзіла, старанна ўхілялася ад магчымых сустрэчаў з Фрэбэргам у нашых гулкіх доўгіх калідорах. Аднойчы Зарэмба данесла:

— Фрэбэрг пытаўся, чаму ты ня ходзіш на заняткі. Сказаў, што падасьць зьвесткі па пропусках у дэканат.

— Няхай.

— Ну і чым гэта скончыцца? Цябе пазбавяць стыпухі. А як ты здасі экзамен?

Разлаваная, я павярнулася, каб сказаць, што ніколі ня выбачу яму, што не магу яго бачыць, што лепш вылечу, чымся гэтаму скаціняку... Фрэбэрг ішоў па калідоры, ішоў да нас — гэта было несумненна. Ён адмыслова спусьціўся ў цагляныя кратаваныя казэматы, дзе ў нас меліся быць лябараторныя па квантавай мэханіцы.

Алена павіталася.

— Калі можна, я прасіў бы вас на два словы, — зьвярнуўся ён да мяне.

Я адмоўна пахістала галавой.

— Магчыма, я вінаваты перад вамі, і ў вас ёсьць прычыны крыўдаваць на мяне. Магчыма, і ў мяне былі прычыны паводзіць сябе так, як я сябе паводзіў, але я ня буду на іх спасылацца. Скажу з усёй шчырасьцю, што шкадую, калі пакрыўдзіў вас, і прашу за гэта прабачэньня, — сур'ёзна сказаў Аляксандар Ісакавіч.

Я пачырванела. Алена, на маё зьдзіўленьне, таксама.

Фрэбэрг прывёў мяне ў пустую аўдыторыю і тут, сярод крэслаў, перакінутых на сталы, падышоў і пагладзіў па валасах. У шоку, я ўзьняла вочы. Гэтага яшчэ... Але ён не зьбіраўся мяне шкадаваць, выказваць спачуваньне, чаго я баялася. Вочы яго глядзелі так... Так... У мяне нэрвова трымкнула павека — раптам я зразумела мужыкоў, зь якіх сьмяялася раней, і замерла. Я баялася варухнуцца: не хацела парушаць таго, што адбывалася, і ня ведала, што адбываецца, і старалася не дрыжаць...

Ён вельмі прыгожы — пародный прыгажосьцю моцнага разумнага мужчыны. Ці заўважала я гэта раней? Пэўна, так, але толькі цяпер яго прыхаваная моц раптам абрынулася на мяне. Ён палка пацалаваў мяне ў вусны — і забі мяне Бог, калі я думала ў гэты момант пра што-небудзь... Шарахнуў званок. Адарваўшыся, але моцна трымаючы мяне за рукі, ён назваў адрас.

— Заўтра, а пятай. Я буду цябе чакаць.

Нічога больш ня кажучы, пайшоў. Я глядзела на свае рукі, барвова паплямаваныя ягонымі пальцамі, і шэптам паўтарала адрас...

...Па якім назаўтра, стоячы ля дзьвярэй, ужо мо трэці раз узьнімала руку і зноўчку апускала, ня ў змозе націснуць званок. Раптам дзьверы самі рэзка расчыніліся, і той, хто стаяў за імі, нецярплівa рвануў мяне праз парог усярэдзіну...

Так пачаўся наш раман — калі гэта можна назваць раманам. Мы бачыліся даволі часта, кожны раз у яго, і кожны раз гэта было нейкае шаленства. Мы мала гаварылі, зрэдку разам вячэралі. Я ніколі не гатавала яму ежу. Ён ніколі не праводзіў мяне дадому, ніколі не загаворваў ні пра будучыню, ні пра інстытуцкія справы. Мы толькі зрэдчас разам елі вячэру, якую нехта гатаваў раней. Ня вельмі мне гэта падабалася. Дайшло да таго, што я вырашыла паставіць на сваім, прымусіць паважаць сябе — і ў далёкіх закутках падсьвядомасьці ўжо вымалёўвалася салодкая карціна: незалежная і гордая я — на пастамэнце самапавагі, і Фрэбэрг А.І. — на каленях просіць прабачэньня, рукі, сэрца і дазволу пазнаёміцца з бацькам. І нашае сумеснае жыцьцё зіхаціць і зьзяе пад гукі шлюбнага маршу... Нічым мары ня скончыліся, вядома. Я прыходзіла да яго шторазу, калі ён клікаў. Хацела не ісьці, але не магла. Кожны раз змагалася з сабою да апошняй хвіліны, а потым ліхаманкава зьбіралася і хапала таксоўку... Ня трэба мяне бэсьціць. Вы п'яце гарэлку, я прагну каханьня. Хай яно гарыць! Дужэйшы ён за мяне. Прагнуў мяне — і атрымаў. А я прагну яго — і... У Нью-Ёрку!..

...Дуб з Канстантам, як кавалеры, правялі мяне дадому, і Дуб на разьвітаньне, цалуючы ручку, зазначыў:

— Я не прашу мадмуазэль выйсьці за мяне замуж, але, о сьвенты Божа, якую я гэтым раблю памылку!

Ён зрабіў жэст, які меўся паказаць глыбіню ягонага гора, і зьехаў па парэнчыне.

Бацька ня спаў, чакаў мяне, каб распавесьці пра сёньняшні выклік да сьледчага.

— Пазванілі мне на працу, прапанавалі зайсьці,— бацька хадзіў туды-сюды па кухні, і я вадзіла за ім галавой. — Мог бы й не вярнуцца!

— Як так?

— А так! Сьледчы гэты — забыў прозьвішча — млявы такі, як цела без душы, паказаў мне фота забітага і пытае — ці ведаеце гэтага чалавека? Прыглядзеўся я — а гэта Мянцей! Так, кажу, ведаю, працавалі раней разам. А калі, пытаецца, вы яго бачылі апошні раз? Ды, кажу, з паўгоду таму. тады ён якраз звольніўся. А сьледзтва, кажа той, мае зьвесткі, што вы бачыліся з пацярпелым непасрэдна перад яго сьмерцю. Якія такія, кажу, зьвесткі? Не сказаў якія, выклаў на стол наш нож, і пытаецца: пазнаеце гэтую рэч? Як, кажу, не пазнаць, калі гэтым нажом ужо мо дзесяць гадоў карыстаюся. Гэтым нажом, кажа, забілі грамадзяніна Мянцея, і на дзяржаньні былі знойдзеныя толькі вашыя адбіткі пальцаў. Чым вы гэта патлумачыце? Тым, кажу, і патлумачу: дзесяць гадоў ім карыстаюся, як ня быць? І няўжо ж вы думаеце, кажу, што калі б я забіў Мянцея, то не паклапаціўся б дзяржаньне працерці?

Ці прызнаеце, кажа, што шэсьць месяцаў таму пагражалі Мянцею сьмерцю?.. Гэты Мянцей, бачыш, быў такой свалатою, што пашукаць, — нэрвуючыся, працягваў бацька. — І якраз перад яго звальненьнем, сапраўды, быў выпадак — з-за таго ён і звольніўся. Прыйшла да нас у кансультацыю, разумееш, старая — пад хвартухом увесь век сядзела, нейкай машыністкай жыцьцё прапрацавала, ні чорта ні ў чым не разьбіраецца, і — дапамажыце ёй аформіць дамову зь нейкай цётухнай. Тая будзе старасьць старэчую дагледзець, а пасьля сьмерці — успадкуе кватэру. Я сам быў вельмі заняты, а тут Мянцей падвярнуўся — давайце, кажа, бабульцы дапамагу. Ну, дапамагай! І дапамог! Тая шлёндра, якая хацела прыбраць да рук яе кватэру, Мянцею адвальіла добры куш, і ён такую дамову накатаў, што трымайся! Бабулька верыла яму сьлепа — а як жа ж, юрыст зь дзяржаўнай установы, рассыпаўся перад ёй дробным макам... Падпісала ўсё. І адразу за парогам апынулася! Згодна з падпісанай дамовай! Старая, енчачы, зноў да нас. Я гляджу — а яна ж, паводле дакумэнтаў, кватэру прадала, прэтэнзіяў ня мае. і расьпіска ёсьць, і ўсё ў натарыюса засьведчана! Сядзіць тая старая перад мной ды плача — начавала яна на прыступках ля кансультацыі, бо там яе ўжо і на парог не пусьцілі. І тут зьяўляецца Мянцей на працу — сыты, пад гальштукам, задаваны. Ну, я і не стрымаўся. Гальштук зь яго садраў і ў каўнер наклаў. Пры Галіне Казіміраўне ды Маргарыце Яўсееўне... Пасьля таго Мянцей і звольніўся, — бацька ўскудлаціў валасы. — І вось цяперака выходзіць, што я яго забіў! Бо паўгоду таму пагражаў! Пагражаць я пагражаў, дык што ж? Ці ў яго і яйцы былі адараваныя?

А дзе вы былі тады і тады, пытаецца ў мяне сьледчы?

*Працяг будзе.*

## Мы прыбіраем кропкі над "і"!

# Крытэр — інтэлект

**Сёньня ў паседжаньні аналітычнага клюбу "Сонейка" бяруць удзел аналітык у цывільным Калядоп, урач-футуроляг Фядупа, літаратар Касьцям, самая сэксуальная журналістка сьвету Таліб і Змагар нябачнага фронту. Яны разважаюць на гарачыя тэмы тыдня — пра новыя прызначэньні ва ўрадзе, уступныя іспыты і гендэрныя праблемы.**

**Калядоп:** Напярэдадні Дня Незалежнасьці Рэспублікі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Гарант Канстытуцыі зрабіў шэраг кадравых перастановак, зазначыўшы, што ў часе адбору прэтэндэнтаў на высокія пасады міністраў і прэм'ераў карыстаўся адзіным крытэрам — *"інтэлектам чалавека"*, а з астатнімі змагаўся апэратыўнымі мэтадамі.

**Фядупа:** Ну, ведаеце, міністраў ставіць — гэта вам не італійскіх шпіёнаў вызваляць. Ёсьць абсалютна пэўная інфармацыя, што ўсе новыя прызначэньні Лукашэнка ўзгадніў з Гаспадаром Крамля. І Ўладзімер Пуцін, з уласьцівай яму пранікнёнасьцю самбіста, даў АРЛ шэраг карысных парадаў. Менавіта зь ягонае падачы Лукашэнка, які спачатку хацеў паставіць Анатоля Цюцюнова першым намесьнікам прэм'ер-міністра, а Сяргея Сідорскага — новым намесьнікам прэм'ер-міністра, зрабіў наадварот, чым вызнаў сваю абсалютную падпарадкаванасьць Крамлю і згоду ўвайсьці 90-й вотчынай у дэмакратычную Расею.

**Калядоп:** Не, калега, тут Вы ня маеце рацыі. Згодна з плянам, выпрацаваным шэрагам кампэтэнтных органаў пры кіраўніку дзяржавы, Гарант Канстытуцыі пакінуў маленечкую надзею і беларускім нацыянал-радыкалам зь іх даведзенай да абсурду ідэяй "самасьційнасьці", прызначыўшы выпускніка Магаданскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Андрэя Кабякова міністрам эканомікі. А мог бы і культурай кіраваць паставіць... А так — няхай за Гулякам яшчэ пагуляюць.



Андрэй Кабякоў

**Фядупа:** Толькі вельмі недалёкі чалавек ня зьвязваў бы гэтых падзеяў з мэтадычнай і фінансавай падтрымкай Цэнтрабанку Расеі. Мы ж ня можам быць замужам за іншай цывілізацыяй...

**Таліб:** Дарэчы! Пра замуж! Мяне вось якая праблема турбуе: чаму сярод новапрызначаных уладцаў вось ужо колькі гадоў няма ніводнае жанчыны? Я хачу спытацца ў старшыні Камітэту дзяржкантролю спадара Тозіка, у міністра адукацыі Пятра Брыгадзіна — хто нарадзіў вам абітурыентаў?! І як могуць тыя 560 кантралёраў казаць пра маральную чысьціню, калі яны — мужыкі?

**Касьцям:** А мне тэлефанавалі з многіх славянскіх дзяржаў і падтрымлівалі нашага прэзыдэнта! Бо яшчэ ў дзявятым стагодзьдзі патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі вызначыў ролю жанчыны ў грамадзтве: *kirche, kinder, küchen*! Навошта нам жанчыны ва ўладзе, калі там ёсьць іх Гарант?

**Змагар:** А як па мне, дык усе вы, што мужыкі, што бабы, — здраднікі, рэнэгаты і агенты Масквы!

**Таліб:** Аге-енты?! А чаму не агенткі?!

Тут мы мусілі згасіць сьвятло і ўключыць пажарную сыгналізацыю, бо спрэчка пагражала выйсьці за межы аналітычнага рынгу.

**Аддзел аналітыкі**



## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Спадарыню Валянціну Корзун** — цудоўнага чалавека і сябра па клюбе — віншуем з народзінамі. Няхай твае сьцежкі прастуе Бог. Сябры і аматары піва

**Андрусю Сяркоў**, віншуем цябе з Днём народзінаў. Посьпехаў у жыцьці і зьдзяйсьненьня ўсіх мараў. Сябры

**Віншуем Сяркова Андрэя** з Днём народзінаў. Хай усе твае пачынаньні скончацца пасьпяхова. СРМФ

### ідэі

**Падару** тры коркі з надпісам "лета" (ці прыму ў падарунак ажно 17). А/с 461, 220050, Менск

**Дзякуем** за чародныя зьвесткі з Воршы й Слуцку! А вы напісалі пра падзямельлі свайго места? А/с 30, 246015, Гомель

**Куды зьніклі** вядомыя людзі Беларусі — Ганчар, Захаранка, Красоўскі, Завадзкі? Пятро з Жодзіна

**Не давайце** сьвятога сабакам і ня кідайце пэрлаў вашых перад сьвіньнямі. Пятрок

**Чалавек** як фізычная асоба павінен мець волю самавыказваньня, і нават блазну дадзена права вольна выказваць свае трызьненьні... Муамар Кадафі, "Зялёная кніга"

**У.Ж.** На жаль, гэтай волі няма ў Беларусі і, што асабліва непрыемна, у так званай "незалежнай" прэсе. Гінуць ідэі, хірэюць людзі

**Л. не дыктатар**, а нелігітымная марыянетка. Ягоны кіраўнік — У.У. Alex

**Шукаю тых**, хто заўсёды імкнецца да посьпеху. Дапамагу выбраць добрую "вуду". Навучу "лавіць рыбу". Мікола. Т.: 263-70-36

### кантакты, імпрэзы

**Шточацьвер** у Менску ля помніка Янку Купалу адбываюцца літаратурныя чытаньні, прысьвечаныя 120-годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пачатак а 17.30. Запрашаюць сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі — БНФ

**Пазнаёмлюся** зь беларускай дзяўчынай. Т.: 238-87-93. Сяргей

**Хлопец** пазнаёміцца з жанчынай 35—55 год. Мне 25, в/а. А/с 71, 220073. Аляксей

**Царква эвангельскіх хрысьціян** "Новая зямля" запрашае на набажэнствы штонядзелю, а 15-й, на Чайкоўскага, 37

**Я** — 28 год, прывабны, добры, клапатлівы, інтэлігентны, спакойны, вельмі верны, шчыры, надзейны, прыстойны, ня здольны на падман, здраду, абсалютна бяз шк/зв, жанаты ня быў, судзімы ня быў, небагаты, люблю кнігі, прыроду, хатнюю ўтульнасьць. Ты — простая, верная дзяўчына 18—30 гадоў, бяз шк/зв, сьціплая, хатняя, бяз бурнага мінулага, выгляд, адукацыя, стан здароўя вялікай значнасьці ня маюць. Пісаць толькі для стварэньня сям'і. А/с 21, 210021, Віцебск-21. Аляксандру

### кнігі, музыка

**Rammstein** на CD: усе альбомы ў MP3 і відэакліпы. Зьвяртацца: aut@tut.by

**Аўдыё, відэа**, CD, кнігі, паштоўкі, майкі і інш. можна замовіць у Мазыры. Т.: 30-7-13, Юрась

**Кнігі й часопісы** бібліятэкі БГА можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51; e-mail: bandrej@tut.by

**Аўдыё, відэа, паштоўкі і інш.** — фольк, фольк-рок, пастфольк, Сярэднявечча, рыцарства. Т.: 220-68-74

**Прадаю з "БК"**: Я.Карскі, Кузьма Чорны, П.Трус, К.Каліноўскі, М.Улашчык, У.Жылка, "Філяматы і філярэты". Т.: 235-34-14

**Незалежныя часопісы** й кнігі ў Барысаве. Замаўляйце і чытайце беларускае. А/с 714, 222120, Барысаў-1

**Н.Арсеньнева** ды іншыя кнігі сэрыі "Беларускі кнігазбор" **у Баранавічах** — кнігарня "Кнігі", **у Полацку** — кнігарня "Сьветач", **у Берасьці** — кнігарні "Іскра" і "Дружба", **у Лідзе** — кнігарня "Кніжны сьвет", **у Горадні** — кнігарні "Слова" і "Кругагляд"

**Новы погляд** на паходжаньне Русі, гісторыю Беларусі ў часопісе "Гістарычная Брама". Можна набыць у гарадзенскай кнігарні "Слова", берасьцейскай "Іскра" і менскай "Акадэмкніга"

**CD "Легенды ВКЛ"**, "Крамбамбуля", "Hardcoreманія: Чаду!" і інш. ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Вельмі танна прадаю** цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі на розныя тэмы ў добрым стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. Прадаю эпапэю Салжаніцына "Чырвонае кола" ў 10 тамах, Дзіцячую бібліятэку за 1500 рублёў. А/с 21, 210021, Віцебск-21

**Навуковы часопіс** прыме да разгляду артыкулы тэалягічнай і культуралягічна-рэлігіязнаўчай тэматыкі. А/с 258, 220103, Менск

**Беларуская музыка** (касэты і кампакты) і навіны гарадзенскай сцэны на сайце: htttt://michelson.by.ru. Замовы праз пошту: а/с 62, 230003, Горадня-3. E-mail:michelson75@mail.ru або antyfa_gr@tut.by. Замаўляй і атрымай!!!

### праца

**Набор**, карэктура, стыль бел /рас. Натальля. Т.: 285-01-68, (277) 44-2-96

**Кляўіятура** зь беларускай раскладкай. тэл. 284-78-26.

**Пераклады** зь нямецкай і ангельскай моваў. Пэйджэр 211-85-85, аб. 25402.

**Пракат беларускамоўнага відэа на ТБМ. Румянцава, 13. Т.: 288-23-52.**

**Шырокі выбар** бляначнай прадукцыі: усе віды накладных, дарожных лістоў, адрыўныя талёны, новыя кнігі бухгальтарскага ўліку для прадпрымальнікаў і юрыдычных асоб. Расходныя матэрыялы. Тэлефон у Смаргоні: (01592) 33-0-77.

**Прадаю падшыўку** газэты "Наша Ніва" за 1998—2001 г. Кошт 10000 руб. за гадавы камплект. Маюцца асобныя нумары за 1991—1995, 2002 г. Тэл. 258-43-54.

**Прадаю т. 1—13 "Беларускай энцыкляпэдыі"** (1996—2002). Кошт 150000 руб. Альбом М. Раманюка "Беларускія народныя крыжы". Кошт 36000 руб. Тэл. 258-43-54.

**Прадаю 36. твораў** Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, В. Быкава, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна і інш. Танна. Тэл. 258-43-54.

**У "Нашай Нівы" з 24 чэрвеня зьмяніўся адрас электроннай пошты.** Замест nn@irex.minsk.by лістуйце на nn@promedia.by. Стары адрас застаецца дзейны толькі да 1 жніўня.

## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

### жарт



## o tempora, o мова!

### Уключна юбілею?!

"Улучна юбілею народнага песьняра Янкі Купалы Таварыства беларускай мовы пры падтрымцы дабрадзеяў выпусьціла мастацкі каляндарык на 2002—2003 год і плякат (дызайн мастака Ігара Марачкіна) з выявай паэта на фоне касьцёлу Сьвятога Роха і словамі зь верша "Ворагам Беларушчыны".

**З паведамленьня Таварыства беларускай мовы**

## паштовая скрынка

**Андрусю К. з Магілёва.** Гэта ня тое, што мусіць выносіцца на старонкі газэты.

**Юр'ю Ф. з Гомеля.** За такі артыкул варта брацца, толькі пабываўшы ў Сэнэгале.

**Антону Л. з Горадні.** Перашлеце свой крытычны водгук непасрэдна ў *"БДГ"*.

Гэты нумар "Нашай Нівы" выйшаў дзякуючы ахвяраваньню Сяргея Дубаўца зь Вільні.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 288-12-32, (0296) 13-32-32.
E-mail: nn@promedia.by
http://nn.by


Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3601.

Нумар падпісаны ў друк 10.07.2002.

Замова № 4204

Рэдакцыйны адрас Менск. Калектарная, 20а/2а